
XIX «Бязмежжа» → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714






http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 01 (3164) Год LXII Беласток, 1 студзеня 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Фота Улі Шубзды

■ Таццяна Фалевіч


Фота Міры Лукшы

■ Злева: Магдалена Бляяўская, Дамініка Сікора, Наталля Лукша, Марта Драздоўская

# «Дэбют»
## — не толькі конкурс, але і шанц

**Жыццёвая мудрасць, спеласць, шырокі погляд на свет і нарэшце ўражлівасць — так аб працах дасланых на конкурс гаварыў сябра журы, літаратуразнавец Янка Трацяк. У Беластоку ўзнагародзілі лаўрэатаў XIX Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы «Дэбют». Удзел у ім прыняло больш за шэсцьдзесят літаратараў-аматараў з усёй Польшчы. У час мерапрыемства былі зачытаны самыя лепшыя творы. Сама назва конкурсу «Дэбют» пакідае шмат спадзяванняў не толькі з боку арганізатараў, але перш за ўсё саміх лаўрэатаў, якія з вялікай узрушанасцю прымалі ўзнагароды за свае творчыя поспехі.**

Завяршыўся Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы «Дэбют-2016», арганізаваны «Нівай» і Беларускім саюзам у Польшчы. Конкурс быў абвешчаны некалькі месяцаў таму. Ахвотныя маглі выбраць любы жанр літаратурнага твора — распрацоўка, эсэ, апавяданне і г.д. Журы ў складзе Надзея Артымовіч, Юры Плютовіч і Янка Трацяк мела перад сабою 67 падборак тэкстаў. На ўрачыстым падвядзенні конкурсу, якое прайшло 18 снежня ў Беластоку, былі агучаны лаўрэаты ў двух узроставых групах: першая — аўтары з пачатковых школ і гімназій, другая — ад ліцэістаў да дарослых. Як штогод на падвядзенне конкурсу з'ехалі не толькі самі аўтары, але таксама іхнія сем'і, настаўнікі і сябры. Усе яны з нецярпеннем чакалі абвяшчэння вынікаў, якія абнародаваў галоўны рэдактар тыднёвіка «Ніва» Яўген Вапа.

Лаўрэаткай у першай узроставай групе стала вучаніца вельмі творчай школы ў Нараўцы **Магдалена Бляяўская**.

— Гэта для мяне вялікая неспадзяванка. Я не разлічвала, што мае вершы журы палічаць самымі цікавымі, — сказала пасля абвяшчэння вынікаў Магда, шматгадовая ўдзельніца майстар-класаў „Сустрэчы «Зоркі»". — У гэтых вершах мае думкі. І ўсё, што маё. Проста жыццё, якое я адчуваю, якое я бачу, якое іншыя людзі адкрываюць перада мною. Многа маіх твораў паўстала ў час зорчыных майстар-класаў. Прысутнасць на іх вельмі многа для мяне абазначае. Я лічу сябе беларускай і менавіта там магу праявіць сябе поўнасцю.

Другое месца заняла **Дамініка Сікора** з Новай Волі, а два трэція — **Наталля Лукша** з Баб'яй Гары, ды **Марта Драздоўская** з Міхалова. У час падвядзення вынікаў конкурсу «Дэбют» узнагароды атрымалі не толькі лаўрэаты, але таксама настаўніцы са школ, з якіх штогод найбольш дзяцей дасылае свае літаратурныя спробы.

— Конкурс узбагачае літаратурную спадчыну Беласточчыны, — адзначыў галоўны рэдактар «Нівы» Яўген Вапа. — Вось прыклад Нараўчанскай гміны, у якой так шмат асоб арганізуецца ў кругі, якія пішуць па-беларуску. Тут вялікая справа настаўнікаў. Яны дапамагаюць моладзі дэбютаваць, падказваюць, вучаць гуляць з мовай. Такая праца з моладдзю, творчасць па-беларуску гэта вялікая адукацыйная справа, таму хочам падзякаваць настаўнікам, якія заахвочваюць сваіх вучняў да творчасці.

У працы з моладдзю вылучаюцца тры настаўніцы, якія ў час мерапрыемства з рук старшыні Літаб'яднання «Белавежа» Яна Чыквіна атрымалі ўзнагароды. Гэта Анна Кандрацюк са школы ў Нараўцы, Эмілія Грыка з Міхалова і Іаанна Марко з праваслаўнай школы ў Беластоку.

— Ёсць такая надзея, што вучні, якія сюды прыехалі і пішуць, не пакінуць творчасці, — адзначыла настаўніца беларускай мовы ў Нараўцы Анна Кандрацюк. — Помню гады, калі Эмілія Грыка прыязджала сюды, будучы яшчэ маёй вучаніцай. Цяпер яна настаўніца, яна заахвочвае вучняў і бачу, што гэта ёй атрымліваецца. Таму ёсць надзея, што вучні надалей будуць рабіць свае літаратурныя спробы ў конкурсе «Дэбют». Не пакінуць творчасці.

І пэўна так будзе, паколькі Магдалена Бляяўская ў час размовы з журналістамі беластоцкіх СМІ сваё выказванне падвяла словамі: «Вершы, гэта частка мяне. Не шкадую часу на творчасць. Заўсёды яна будзе прысутная ў маім жыцці».

Менавіта конкурс «Дэбют» ладзіцца перш за ўсё, каб натхніць маладых творцаў, узбудзіць у іх цікавасць да прозы і паэзіі, павысіць адчувальнасць, а таксама прамаваць маладыя літаратурныя таленты. Падчас мерапрыемства сябра журы адзначыў, што ўсе ўдзельнікі заслугоўваюць прызнання за тое, што ўзялі на сябе працу, каб падрыхтавацца да конкурсу. У ацэнцы журы ўзровень конкурснага змагання быў высокі, а кандыдатаў да ўзнагарод і вылучэнняў шмат. Янка Трацяк таксама звярнуў увагу на тое, што тэксты змяшчалі ў сабе радасць, дзіцячую беспасрэднасць (у выпадку малодшых аўтараў), гумар і цікавасць да акружаючага свету. Ён захапляўся перш за ўсё тым, што ўвесь час ёсць людзі, якія ўмеюць аб гэтым пісаць, карыстаючыся арыгінальнымі метафарамі, параўнаннямі і беларускай мовай.

— Працы выяўлялі глыбокую ідэю або думку, — адзначыў Янка Трацяк. — Ёсць форма, гармонія паміж зместам і формай. Тэксты цалкам упісваюцца ў літаратурны, мастацкі кантэкст. Вось тыя тэксты, якія мы вылучылі, сапраўды гэтага вартыя.

У другой узроставай групе перамагла дэбютантка **Таццяна Фалевіч** з Сольца. Таксама дэбютант, **Міраслаў Філіманюк**, заваяваў высокае, другое месца. Поспехам таксама было трэцяе месца, якое заняла наймалодшая асоба ў гэтай узроставай катэгорыі, другакласніца Гайнаўскага беларускага ліцэя **Наталля Васько**.

Аднак, як трапна заўважыла лаўрэатка Таццяна Фалевіч, гэта не дзеля ўзнагарод так многа людзей з усёй Польшчы дасылае свае тэксты на літаратурны беларускі конкурс.

— Конкурс «Дэбют» стварае атмасферу, прастору для сваёй сям'і, — сказала Таццяна Фалевіч, — эмацыйна выражае сувязь паміж тымі, хто складае гэтую прастору: сябры, блізкія. Менавіта гэта надае цеплыні, паэтычнасці і рамантычнасці ўвесь час.

Суарганізатарам Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы «Дэбют» з'яўляецца «Ніва» і менавіта на яе старонках будуць надрукаваны творы ўсіх аўтараў. Яны з'яўляюцца свайго роду панарамай літаратурных талентаў, іх творчых пошукаў, мар, жаданняў, літаратурным вобразам нашага беларускага свету.

❖ **Уршуля ШУБЗДА**

**Таццяна ФАЛЕВІЧ**

* * *

Магу быць для цябе
закаханай дзяўчынкай,
якая піша табе смешныя цыдулкі —
Ты б навучыў яе цалавацца
салодка!

Магу быць для цябе
злёгку цынічнай пані —
кплівай і недаступнай —
Яна навучыла б цябе забароненым
штукам!

Магу быць тваім адданым сябрам,
які прыймчыцца нават
а трэцяй гадзіне ночы
Са слоікам малінавага сочыва,
Выратуе і застанецца
да золку.

Магу красці з табой арабскіх коней
а можа, — й саму Мону Лізу! —
спяваць толькі што складзеныя балады,
акампануючы на старой фісгармоніі
(Ты б рукамі націскаў на педалі і
цалаваў мае калені, а я б
смяялася і прамахвалася на клавішах)!

Калі ты захочаш, — магу гатаваць два —
Не, нават тры разы на дзень! —
Твой любімы халаднік.
А яшчэ – лазіць па кустах і крапіве
у новай блакітнай сукенцы – за табой
у неймаверных аранжавых штанах,
Лічыць зоркі над Свіцяззю, а можа,
— над Віслай,
І лавіць мокрым прыполам маланкі
У час навальніцы.

Але, каб усё гэта магло адбыцца,
трэба сёння толькі
не спазніцца на нашу сустрэчу,
прызначаную на скрыжаванні
Птушынай Дарогі і вуліцы Пулаўскай —
Так, так – там,
У гарбацярні на Адыньца!

Мы ўладкуемся выгодна
пры кутным століку
на беразе ракі Вечнасці,
І будзем піць гарбату
Вясна Зялёнага Смаўжа
З гарачай шарлоткай і
ледзяным марозівам,
лавіць быццам між іншым
экзатычных рыбак
нашай балбатні і
Выпускаць іх у празрыстую вазу
з адзінокай хрызантэмай,
якая нудзіцца самотна
паміж нашымі кубкамі ...

... Мо ты-такі завязаў ужо свой жудасны
гальштук і
залез у свой мерседэс 90 года
нараджэння?
Я не магу больш шукаць цябе
ў нетрах бясконцых панядзелкаў і
чацвяргоў,
чакаць на перонах шумных чужых святаў
або на станцыях міжгалактычных
тэлепартацый,
Ты проста злаві мяне за рукаў, за хвост,
крыло – ці
што там трапіцца пад тваю руку, —
І прыцісні ў свае абдымкі, — назаўжды! —
гэта ж так проста.

9 770546 196000



# Паедзьце ў Кіеў

Знакамітая „Вікіпедыя" пачынае свой аповед пра Белсат наступнай фразай: „Белсат пачаў спадарожнікавую трансляцыю 10 снежня 2007 года, у Сусветны дзень правоў чалавека...".

Сама дата, да якой быў прывязаны пачатак першай трансляцыі, яскрава гаварыла пра тэматыку і намеры калектыву новага незалежнага СМІ.

А цяперашнім годам, у Дзень правоў чалавека я раздаваў жыхарам Гародні спецвыпуск „Народнай волі" прысвечаны гэтай даце. І многія гарадзенцы, узяўшы газету, з трывогай пыталіся ў мяне, ці праўда што Белсата больш не будзе...

Неўзабаве і сродкі масавай інфармацыі ўзарваліся ад навіны, што міністр замежных спраў Польшчы Вітальд Вашчыкоўскі ў інтэрв'ю польскаму парталу wpolityce.pl паведаміў пра закрыццё Белсата ўзамен за абяцанне пусціць у кабельныя сеткі Беларусі польскі тэлеканал Палёнія.

Так і захацелася грымнуць фразай ужо не з „Вікіпедыі", але таксама са знакамітага твора Ільфа і Пятрова „Залатое цяля", дзе Міхаіл Самуэлевіч Панікоўскі крычыць у твар Шуру Балаганаву:

— А паедзьце вы ў Кіеў, і ўсё... Паедзьце ў Кіеў і спытайце...

Вось і пан міністр мог бы з'ездзіць у Кіеў і спытаць у свайго ўкраінскага калегі, як беларускі ўрад выканаў абяцанні пусціць на беларускую медыйную прастору ўкраінскі тэлеканал.

Але нават каб польскі канал, пра які гаворыць пан міністр і насамрэч з'явіўся б у Беларусі, то ці змог бы ён замяніць Белсат?

Ва ўсё той жа „Вікіпедыі" чытаем: „У якасці задачы Белсата абвяшчалася — даць беларусам доступ „да незалежнай інфармацыі, да дакладных звестак пра гісторыю іх краіны, да поўнай інфармацыі пра міжнароднае атачэнне Беларусі, да цікавых культурніцкіх і забаўляльных праграм на іх роднай мове".

А вось пра родную мову асобная гаворка. Беларуская інфармацыйная прастора засыпана расійскімі каналамі. І вяшчаюць яны, зразумела, па-руску. Былі некалі і іншыя гучанні, у тым ліку і польскія. Хто іх выкінуў з эфіру здагадацца няцяжка нават тым, хто дзеля скону Белсата вядзе дыялог з тымі, хто і выкінуў польскія каналы з беларускага эфіру.

І наступ на родную мову беларусаў з'ява не новая. Я гэта пра тое, што ўзамен Белсату можа выйсці іншы тэлеканал на рускай мове. А менавіта мова беражэ народ ад асіміляцыі. І выступаць супраць яе можа толькі той, хто жадае гэтай асіміляцыі.

Відаць, словы Жырыноўскага пра змену меж у Еўропе, якія падзеляць Украіну і Беларусь зноў на заходнюю і ўсходнюю, некаму не даюць пакою. Ну то ім варта было б паглядзець у гісторыю і зразумець, што ад Рыжскіх пагадненняў да пакту Молатава і Рыбентропа праходзіць не так многа часу.

А Уладзімір Вольфавіч Жырыноўскі заўтра можа прапанаваць змяніць тыя межы паводле трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай. З яго шапка не зваліцца. І невядома колькі дзеячаў у Нямеччыне, а можа і на Вугоршчыне, палічаць тую прапанову гэтакай жа заманлівай, якой яе палічыць уся Расія. Пра гэта мусіць памятаць кожны „polski PAN", калі прыслухваецца да слоў „русского ГОСПОДИНА".

Ну але вернемся да Белсата.

„Вікіпедыя" працягвае інфармаваць нас, што „паводле сацыялагічных апытанняў Цэнтра сацыялагічных даследаванняў „Люстэрка-інфо" (2012 г.) больш за палову (53%) карыстальнікаў спадарожнікавых антэн у Беларусі дэкларуюць, што глядзяць праграмы Белсата. Колькасць гледачоў са спадарожнікавай антэнаю — амаль 1760 тыс., што складае 22% дарослай тэлеаўдыторыі ў Беларусі".

Някепска, праўда. І гэта на такім нявялікім рэсурсе. Усё з-за энтузіязму і неверагодна актыўнай працы аднаго з наймацнейшых медыйных калектываў, які хочуць разбурыць.

Дарэчы, пра рэсурс. Некаторыя лічаць яго падачкай беларусам з польскага бюджэту. Зноў заклікаю такіх людзей вярнуцца памяццю і ўзгадаць, як цывілізаваны свет дапамагаў палякам вырвацца з абдымкаў СССР. А ўзамен і з удзячнасці Польшча абвясціла сваёй місіяй прасоўванне дэмакратыі на ўсход...

Ну дык што цяпер рабіць белсатаўцам? А можа ім паехаць у Кіеў, калі больш ніхто не хоча. І пагаварыць пра той рэсурс. У Кіеве то яшчэ не забыліся, да чаго прыводзіць брак сваіх нацыянальных медыйных рэсурсаў, якія вяшчаюць на роднай мове.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Што тварыцца



Які канфуз... Ці хто-небудзь разумее, што тварыцца ў сённяшняй Польшчы?

Я прызнаюся, цалкам здурнеў. Перш за ўсё, таму што асаблівa разбуральныя дзеянні цяперашняга ўрада — па сутнасці, антыграмадскія і антыдзяржаўныя — перарастаюць маё разуменне рэчаў. У чыё імя гэтая ўлада выступае — дэстабілізуючы канстытуцыйныя асновы дзяржаўнай судовай сістэмы, пракуратуры, падзяліўшы грамадства на варожыя лагеры, дэмантуючы асноўную структуру польскага войска, адміністрацыі, органаў мясцовага самакіравання, ставячы з ног на галаву адукацыю... Суверэна?!. На ў дадзены момант кіруючую партыю прагаласавала 38% выбаршчыкаў. Гэта нават не большасць сярод тых, хто вырашыў прыняць актыўны ўдзел у выбарах. Суверэнам з'яўляюцца не толькі «пераможцы», але і «тыя, хто прайграў». Усе палякі, незалежна ад заяўленай рэлігіі, нацыянальнасці і культурнай сімпатыі. «Польскасць» гэта тэрмін значна глыбейшы, чым вузка разуметая «нацыянальнасць» з аўтаматычна прысвоеным яму пасляраматычным патрыятызмам і ярым каталіцызмам. Ці беларусу, са спрадвечных часоў грамадзяніну Рэч Паспалітай, можна забараніць польскасць, якую натуральным чынам убірае разам з польскай мовай, польскай гісторыяй, якая з'яўляецца неад'емнай часткай з-за натуральнага шляху ўдзелу ў калектыўным жыцці палякаў і сваім асабістым вопытам польска-беларускага двухмоўя і бікультуралізму? А атэістам паляк ужо не можа быць? А праваслаўны? А пяцідзясятнік?

У апошнія выходныя перад Сеймам сабраўся шматтысячны натоўп, заклікаючы да абароны дэмакратыі. Гэта была спантанная рэакцыя часткі грамадзян на забарону ўваходу журналістам у парламент і прынятага ў дзіўных абставінах і схаванага ад тэлекамер і пільнай увагі журналістаў бюджэтнага законапраекта. У некалькіх сотнях метраў іншы не менш вялікі тлум, сабраны «Газетай польскай» — прыхільнай ПіС, абзываў тых першых ад дэбашыраў. Ледзь не дайшло да бітвы... на кулакі? Або, магчыма, ужо на нажы, кастэты, дубінкі, аўтаматы? Хто мае рацыю? Якая праўда? Ці «ісціна» з'яўляецца надалей каштоўнасцю, ці толькі лагічным аргументам, служыўшым пабудове шчырай хлусні? У апошні час модным стала слова «пост-праўда». А што гэта за вычварэнне — праўда над праўдай? Ці хлуслівая праўда ці сапраўдная хлусня? А што робіць Каталіцкі касцёл, да нядаўняга часу вялікі маральныаўтарытэту Польшчы, які праўду сапраўды зрабіў асновай сваёй непахіснай веры?

«Касцёл выйшаў на дурня!» — шкадуе ксёндз праф. Альфрэд Вяжбіцкі, этык, шматгадовы дырэктар Інстытута Яна Паўла ІІ Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта. У інтэрв'ю для радыёстанцыі TOK FM ён моцна раскрытыкаваў тое, што зараз адбываецца ў Польшчы.

Паводле яго слоў, Касцёл стаў заложнікам ПіС, калі пачалася справа Канстытуцыйнага трыбунала і не ўзяў ён голасу па гэтым пытанні. «А гэта не звычайная спрэчка, — кажа ксёндз прафесар. — Ян Павел II сказаў, што асновай дэмакратыі з'яўляюцца каштоўнасці. Калі ўдараецца па каштоўнасцях, б'ецца самае каштоўнае. І тады трэба было ўгаварыць ПіС, трэба было абараняць дэмакратыю. [Біскупы] праз той факт, што далі сябе ўцягнуць у ПіСаўскую палітыку, сталі часткай палітычнай групоўкі, не абараняючы асноў дэмакратыі».

Залатой тубай дэмакратыі лічыцца беларускамоўнае Радыё Рацыя і Тэлебачанне Белсат, адрасаваныя ў першую чаргу да атрымальнікаў у Беларусі. Ходзяць чуткі, што Радыё Рацыя хочуць ліквідаваць. Тэлеканал Белсат у некаторай ступені таксама за кошт скарачэння яго бюджэту да вегетацыйнага мінімуму і запланаванай змене вяшчання з беларускай мовы на рускую. У гэтых плётках ёсць штосьці на самой справе, калі дырэктарка Белсата Агнешка Рамашэўская, прыватна прыхільніца «добрых перамен» і адкрытая прыхільніца ПіС, выказала ў гэтым пытанні сур'ёзную заклапочанасць. Па дзіўным супадзенні, шаптаная інфармацыя аб ліквідацыі беларускамоўных станцый супала з дыпламатычнай экспансіяй польскага ўрада ў Беларусі і візітам маршалка Сената Станіслава Карчэўскага з ПіС у Беларусі. Пасля візіту ў прэзідэнцкім «аграмадным палацы, манументальным збудаванні, такім прыгнятальным», маршалак выказаўся аб Аляксандры Лукашэнку як добрым і цёплым чалавеку. На пытанне пра палітвязняў беларускага самадзержцы, ён сказаў, што такіх у Беларусі няма. «Былі, ды іх няма», — сказаў ён катэгарычна. А Рацыя і Белсат упіраюцца, што яны там ёсць. Ну, і дзе тут праўда?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Прамінанне Новага года

Калядна-навагодні перыяд заўсёды нясе з сабой, нягледзячы не ўсе абставіны, надзею на лепшае. Чым больш мы становімся дарослымі, тым лепш разумеем і ацэньваем належным чынам тыя імгненныя хвіліны шчасліва пражытых дзён. Таму менавіта з такой неўтаймаванай радасцю ахвотна вяртаемся ўспамінамі ў аазіс шчаслівага дзяцінства. Хаця не ў кожнага было яно і бестурботным, і не журботным. Але менавіта з перспектывы даросласці хвіліны запамятанага маленства малююцца нам тымі вобразамі, якімі даражым найбольш. І пахнуць тымі смакамі, што распазнаем у кожную хвіліну.

Перыяд Каляд то час нараджэння не толькі малога дзіцяткі Ісуса Хрыста. Дзякуючы яму, у нас таксама нараджаюцца мары і надзеі. Таму цуд на Каляды можа стаць неспадзявана нашым зямным цудам і для нас. Радаснае чаканне Раджаства Хрыстовага з яго багатай абраднай традыцыяй — гэта час магічнай ілюзіі. Прыгожы сон са спяванымі калядкамі дае нам надзею жыцця. Як жа адрозніваецца калядны перыяд ад перадвелікодных страсцей. Надзея нараджэння Хрыстовага ў сутыкненні з яго цярпеннем і пераход ад дзяцінства да заходу з зямнога жыцця, кругазварот людской вандроўкі. Адмерванне нашага біялагічнага жыцця ў цыкле каляндарна-хрысціянскай абраднасці дазваляе значна спакайней перасякаць чарговыя рубіконы мінулых гадоў: сорак, пяцьдзясят, шэсцьдзясят і дзякуй Богу за кожны пражыты дзень і год.

Таму гляньма як не парадаксальна выглядае на тым фоне рэзкая каляндарная дата — першае ці чатырнаццатае студзеня. Рэзкая дата нашага чарговага года пастарэння па старому ці новаму стылі. Два тыдні цырыманіялу адыходжання, у якім усе з нейкай лёгкай дазіроўкай дэкадэнцкага шаленства завіроўваем у святкаванні зямнога прамінання. Дай Божа, каб быў гэта той адзіны і танцавальны вальс забыцця, а галавакружэнне было вынікам толькі шампанскага. І ўзаемныя радасныя, кампанейскія віншаванні ў рэальнасці набліжаюць нас да мяжы развітання з сябрамі і блізкімі. Таму парадаксальнасць адчування часу заўсёды спадарожнічала сэнсу нашага зямнога жыцця. І было не толькі, як у маім тут выпадку, публіцыстычнай зацемкай, але выклікам для філасофскіх і літаратурных майстраў. Пра час і быццё ў ім чалавецтва ад старажытнасці па сённяшнія дні напісаны тысячы тамоў кніжак, якіх і так мы не прачытаем. А можа гэта адна з тых вялікіх спраў і таямніц веры, што кожны з нас сам мае асэнсаваць сваю прастору часу і прамінання? Асаблівa адчуваецца яна ў перыядзе навагодніх гульняў. Ці ж рэфлексія пра крохкасць зямнога лёсу не з'яўляецца для нас перасцярогай перад бязмежнай распушчанасцю?

Заўсёды пры канцы адыходзячага года, абавязковай дзяжурнай тэмай усіх медыяў з'яўляюцца пытанні да людзей, якія абяцанні змен хочуць увесці ў сваім жыцці з пачаткам новага года. У час гульняў а потым на добрым пахмеллі разыходжанасць пастаноў у адной і той жа самай асобы можа стаць дыяметральна іншай. Таму, Шаноўныя Чытачы, у гэтым месцы хочацца ўсім Вам пажадаць каб змены ў Вашым жыцці былі ўспрымальнымі для душы і цела. Бо ж празмерная нечаканасць можа стаць і прычынай інфаркту ці іншага не дай Бог няшчасця. Таму жаданні і мары, тыя найбольш шалёныя і скрытыя, трэба будзе яшчэ ўмець перажыць. Значна лепей іх рэалізоўваць з сям'ёю ці сябрамі. У сённяшнім свеце, як бачым, не так лёгка на нармальныя, міжасобасныя кантакты. Жыць з людзьмі і для людзей — ці ж гэта не адно з самых запатрабаваных пажаданняў і выклікаў новага 2017 года?

Таму з нашага боку мы, як рэдакцыя «Нівы», абяцаем надалей быць з Вамі. Будзем старацца як найлепей выконваць нашы журналісцкія абавязкі і выклікі. Думаю, што з Вашай дапамогай трапім да незабыўных людзей і нераскрытых яшчэ тэм. Хочацца спадзявацца, што той час, які адведзены нам у зямным жыцці, не праляціць упустую паміж пальцамі. Бо кожны новы год жыцця дадзены нам дзеля пэўнага сталення, чаго сабе і ўсім чытачам «Нівы» жадаю ад шчырага сэрца і ўсёй душы.

**Яўген ВАПА**

З «Нівай па-над межамі»

# Дзевятнаццатае «Бязмежжа» — апошняе?

У Ляўкове на Гайнаўшчыне 16-18 снежня 2016 г. адбыўся традыцыйны штогадовы літаратурны семінар з удзелам пісьменнікаў, выдаўцоў, журналістаў з Беласточчыны і Беларусі. Сёлета «Бязмежжа» было прымеркавана да юбілею тыднёвіка «Ніва». Мадэратарам сустрэч выступіў Яўген Вапа. Літаратурны семінар «Бязмежжа» арганізуецца Праграмнай радай тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва» і Беларускім саюзам у Польшчы, пры фінансавай падтрымцы Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі РП, Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства і войта Нараўчанскай гміны.





Гражына Харытанюк, Ганна Кандрацюк, Паліна Сцепаненка



Віка Трэнас, Ірына Мацкевіч, Юры Несцярэнка



Зміцер Бартосік і Янка Трацяк



Ціхан Чарнякевіч

У творчым семінары ўдзельнічаюць пісьменнікі, перакладчыкі, выдаўцы і журналісты з Беларусі і Польшчы, прэзентуюцца новыя выданні, фільмы, радыёрэпартажы, творчыя аналізы і сінтэзы літаратурнага працэсу, а таксама праводзяцца літаратурныя чытанні і мастацкія паказы ўдзельнікаў сустрэчы. Трохдзённая сустрэча, з вельмі змястоўнай і багатай праграмай сёлета змяшчала даклады, радыёрэпартажы, дакументальныя відэасюжэты, прэзентацыі кніг, дыскусіі, паэтычныя чытанні і музычныя выступы. Ад імя Саюза беларускіх пісьменнікаў прадстаўнікам рэдакцыі быў уручаны віншавальны адрас з нагоды юбілею тыднёвіка «Ніва». З беларускага боку ў літаратурным фэсце ўдзельнічалі літаратурны крытык Ціхан Чарнякевіч (лекцыя пра Максіма Багдановіча), бард і пісьменнік Зміцер Бартосік (прэзентацыя кнігі «Быў у пана верабейка гаварушчы»), пісьменніца і грамадская дзяячка Паліна Качаткова-Сцепаненка (з новай кнігай «Гняздо-2»), музыкант і пісьменнік Юры Несцярэнка (з перакладамі на беларускую мову песень Андрэя Макарэвіча), гродзенскі аўтар і літаратуразнавец Янка Трацяк, паэты Ірына Мацкевіч, Віталь Рыжкоў і Віка Трэнас.

— Пражылі мы год ад папярэдняга «Бязмежжа» кожны па-свойму, з клопатамі і сваімі дасягненнямі, — сказаў на ўступе Яўген Вапа. — «Бязмежжа» — гэта падсумаванне года. Тут нашы сябры з Мінска прадстаўляюць самае цікавае, што здарылася цягам года ў літаратурным жыцці Беларусі. Год завяршаем добрай справай — «Бязмежжам», арганізаваным Праграмнай радай тыднёвіка «Ніва», Беларускім саюзам у РП разам з нашым шматгадовым партнёрам — Саюзам беларускіх пісьменнікаў. У творчай камандзе, якая радуецца ў бязмежнай прасторы свабоднага духу, літаратурнай сустрэчы. Для нас сёлета справа вельмі важная, урачыстая і хвалюючая — 60 гадоў «Ніве», беларускай газеце, якая выдаецца па-за межамі Беларусі.

Ціхан Чарнякевіч зачытаў віншавальны ліст «Ніве» ад СБП:

— Вітаем «Ніву» ад Саюза беларускіх пісьменнікаў. Ваша выданне здолела аргагізаваць і згуртаваць найлепшыя творчыя сілы беларускай грамады, выхаваць новае пакаленне паэтаў і празаікаў, журналістаў і мастакоў. Заўсёды заўважная была яе праца і ў асяродку дзеячаў культуры Беларусі, для якіх у савецкі час газета «Ніва» з Беласточчыны сталася прыкладам слова значна больш вольнага ад абмежаванняў цэнзуры, чым гэта было ў БССР. Пасля набыцця незалежнасці першыя свабодныя СМІ самастойнай Беларусі фарміравалі сваю рэдакцыйную палітыку, шмат у чым арыентуючыся на вашу газету. Нягледзячы на адсутнасць увагі і належнай падтрымкі з боку метраполіі, вы здолелі адстаяць беларускі нацыянальны характар, дух Беласточчыны, змаглі адказаць на выклікі часу і захаваць прыхільнасць сваіх чытачоў.

— Гэта праўда, — падтакнуў Яўген Вапа. — З першага нумара «Нівы» беларускае слова, беларуская літаратура прысутныя на яе старонках. Тое бязмежжа існавала ў «Ніве», нягледзячы на жалезную заслону. На жаль, паміж намі ёсць заўсёды заслоны, і таму мы калісьці прыдумалі «Бязмежжа». «Бязмежжа» — наша беларуская свабода духу. У нашых працах паказаны беларускі свет, ці то пад адной мяжой, у Баброўніках (рэпартаж Ю. Ляшчынскага і У. Шубзды пра сям'ю Міхася і Зосі Цацэркаў з Баброўнікаў, чытачоў «Нівы» ад першага нумара), ці на іншым памежжы — беларуска-расійскім. Тут ёсць касмічная роля «Бязмежжа» — у касмічным палёце, але ў рэальным быцці часу. Час бязмежнай прасторы, час бязмежнай памяці пра людзей. «Бязмежжа» з'яўляецца і інспірацыяй. «Бязмежжа» гадамі прыносіла плён у выглядзе кніжак, анталогій беларускай паэзіі, зборнікаў перакладаў Уладзіміра Арлова, Васіля Быкава ці Адама Глобуса, часопіса «Правінцыя». Пра ролю і дасягненні «Бязмежжа» ў сваім дакладзе раскажа доктар Гражына Харытанюк — пра тую бязмежную інспірацыю з'явы «Бязмежжа» на нашу літаратуру. Для мяне гэта вялікія эмоцыі — не буду скрываць, што такой літаратурай, якая моцна кранае душу і сэрца, з'яўляецца паэзія Андрэя Сцепанюка, якога кнігу выдалі мы да гэтага свята.

Андрэй Сцепанюк, якога дэбютная кніжка «Распісаны квадрат» выйшла ў яго 53 гады, падзякаваў непрысутнаму старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Барысу Пятровічу:

— Барыс Пятровіч — гэта чалавек, які дапамог мне заснаваць у беларускай прасторы. Вельмі цешуся, што з'явіўся шанц увайсці мне ў літаратурную прастору Беларусі.

«Бязмежжа» было інспірацыяй і ўмацаваннем таксама для сваіх «бязмежных», прысутных на семінары аўтараў — для Міхася Андрасюка, Віктара Стахвюка, мастачкі і паэткі Касі Сянкевіч ці Міры Лукшы, для аўтараў рэпартажаў з Польшчы і Беларусі, было матывам, які звярухнуў істотныя тэмы і з'явы з памежжа, пасля прысутныя ў іншых беларускіх праектах, напрыклад у задумах аўтараў «Вілы Сакрата» ці «Белавежы», якія часта выраслі яшчэ з Сустрэч «Зоркі», як Павел Грэсь.

Віка Трэнас прадставіла даклад «Беларуская літаратура — прастора духу ці стан рэзервацыі», расказваючы таксама пра дасягненні і клопаты СБП; каманда СПБ прывезла багаты выдавецкі гасцінец для ўдзельнікаў конкурсу «Дэбют», на якім найбольш удалых, маладых і сталых аўтараў было традыцыйна з Нараўчанскай гміны. Там месціцца «Бора-Здруй», дзе ў апошні доўгі час праводзяцца і «Бязмежжы», і Сустрэчы «Зоркі» — «праца дзеля будучыні» (Ганна Кандрацюк). Пра ніўскі літаратурны «Дэбют» выказаўся член журы, літаратуразнавец і літаратар Янка Трацяк. Пра «Белавежу» — дачку „Нівы"» і выданні для дзяцей і моладзі распавяла Міра Лукша, а пра падляшскую паэзію па-свойму — Віктар Стахвюк. У аўтарскіх чытаннях прынялі ўдзел Міхась Андрасюк, Паліна Сцепаненка, Кася Сянкевіч (таксама паказ яе алейных карцін) і Віталь Рыжкоў, Віка Трэнас, барды і аўтары Юры Несцярэнка і Зміцер Бартосік.

— Гэта незвычайнае месца і незвычайныя сустрэчы! — адзначыла Паліна Сцепаненка. — «Бязмежжа» — гэта і сустрэча з людзьмі, сустрэча з прыродай, з Белавежскай пушчай, сустрэча з беларускім космасам. Яна адбываецца на мяжы, якраз там, дзе яднаюцца дзве часткі Белавежскай пушчы. Гэта незвычайнае месца. Белавежская пушча — яна для творчых асоб, якім фактычна не хапае гэтага творчага паветра — ні ў сённяшняй Беларусі, ні ў Менску, ні ў іншых гарадах. Гэта глыток свежага паветра ў прамым, і ў пераносным сэнсе.

Паэт і перакладчык Віталь Рыжкоў:

— Для нас гэта нагода пазнаёміцца з тым, што адбываецца ў беларушчыне на Падляшшы. Тутэйшая беларушчына мае свой каларыт і пэўную магію.

Віктар Стахвюк:

— Наша бацькаўшчына расцягваецца і па-за межамі. Там і тут людзі жывуць, думаюць і пішуць па-беларуску. Мы — частка аднаго цела.

З прыкрасцю паведамляем, што юбілейны — дваццаты — выпуск «Бязмежжа» не быў ацэнены належным чынам і не атрымае фінансавай падтрымкі на 2017 год ад нашых дабрадзеяў з міністэрства, як і шмат іншых беларускіх праектаў у Рэчы Паспалітай. Невялікая гэтая кінутая капеечка ўсім меншасцям.

Тэкст і фота **Міра ЛУКША**

## Час задумы і рэфлексіі

Набліжаецца Новы год. Што ў падарунку прынясе Дзед Мароз грамадзянам Рэчы Паспалітай? З таго, што вядома, дык станоўчых перамен карысных грамадству не можна спадзявацца. Сёлета падаражала амаль усё, найбольш страхаванне грамадзянскай адказнасці, паліва (бензін) ды харчовыя прадукты. Дачка мая, напрыклад, якая жыве ў Беластоку, год таму купіла аўтамабіль. За страхавы поліс заплаціла 2600 зл. Калі папытала агента колькі заплаціць пасля новага года, дык налічыў ёй больш за 5300 зл. На якое існаванне можа разлічваць адзінокая маці з двума дзеткамі пры месячнай зарплаце 1800 зл.? Урадавай праграмай «Сям'я 500+» не карыстаецца, паколькі адно дзіця закончыла ўжо 18 гадоў, затым на другое адзінокай маці выплата не належыць.

У парламенцкіх выбарах Праві справядлівасць абяцала палякам добрую змену. «Польская палітыка мусіць быць іншай, — гаварыла ў экспазе прэм'ер-міністр Бэата Шыдла. — Пакорнасць, праца, пачуццё меры, разважлівасць у дзеянні і адказнасці. А перш за ўсё слуханне грамадзян. Гэта прынцыпы, якімі будзем кіравацца. Канец з нахабствам улады і фанабэрыяй». Колькі ў гэтай рыторыцы было крывадушнасці, дык грамадства спазнала пасля году праўлення «добрай змены». Па ацэнцы сацыёлагаў і эканамістаў ПіС у прамежку таго часу прывёў дзяржаву да руіны. Сваімі неюрыдычнымі рашэннямі і пастановамі паралізаваў Канстытуцыйны трыбунал, абмяжоўвае свабоду і правы грамадзян, масмедыяў. Не зважае на шматтысячныя пратэсты, арганізаваныя КОДам і апазіцыяй, бо гэта «другі сорт» людзей, камуністы і зладзеі, прадажнікі Польшчы, прыслужнікі Масквы. Такім чынам Права і справядлівасць бярэ рэванш за «крыўды», якіх спазнала будучы ў апазіцыі. Адплачвае Грамадзянскай платформе той жа манетай, рэалізуе адно абяцанкі, дадзеныя сваім выбаршчыкам. Напрыклад адукацыйная рэформа і ліквідацыя гімназій. Няважна, што супраць новай адукацыйнай сістэмы пратэстуюць педагогі, самаўрады, бацькі і самі гімназісты. Міністр адукацыі непахісная, не слухае голасу грамадства. Пытаюць затым: дзе падзелася ПіСаўская пакорнасць і разважлівасць у дзеянні, адказнасць за адукацыю маладога пакалення?

Педагогі не здаюцца. Мяркуюць яшчэ арганізаваць агульнапольскую забастоўку пры ўдзеле настаўнікаў, бацькоў і лакальных самаўрадаў. Ці адменіць гэта лёс гімназій? Цяжка сказаць. Дагэтуль «добрая змена» застаецца неадольнай. Чаго можна затым спадзявацца ў 2017 годзе? Я песіміст. Не лічу на студзеньскую «адлігу». **Уладзімір СІДАРУК**

Юрка БУЙНЮК, Беласток, 2016.12.10

## «Ніве» - 60

«Ніва» — шэсцьдзясят гадоў.
«Ніва» прабудзіла ўва мне любоў
Да беларускага слова.
«Ніва» — Падляшша мова.
«Ніва» — ужо шэсцьдзясят.
Я юбілею «Нівы» вельмі рад.
Жанчына крышку ў гадах
Таксама як чарка віна,
Ім старэйшая,
Тым мудрэйшая.
«Ніва» ўсіх згуртавала
І, каб было мала,
Ужо мы – яе ўнукі –
Песцім яе рукі.
Нашы галовы,
Вершаў словы
Праліваю ў «Ніве»
На беларускай мове,
Часам фельетоны, эсэ,
Хай нам «Ніва» вечна жыве!
«Ніва», мы паважаем цябе,
Ужо пакаленне расце,
Нам па трыццаць — чытае яе.
«Ніва» ты згуртавала ўсіх беларусаў –
Паэтаў, дзеячаў, журналістаў.
Усе горнуцца к табе,
Быццам птушкі на вясне
Да сваёй матулі вясны
Пасля доўгай зімы.
Ты ўсіх корміш родным словам,
То ж вялікае багацце мова,
«Ніва» — ты гісторыя Падляшша,
Ты назаўсёды наша!
А новы нумар – вялікае свята,
Чытаюць цябе ўсе па хатах!
Красуйся – вечна жыві,
Як кроў у нашых жылах плыві!



■ Лаўрэат першага месца Славамір Катара з Мінска-Мазавецкага перамог дзякуючы здымку з каровамі ў вадзе



■ Другое месца заняла Беата Вільчынская са Студзянак, якая сфатаграфавала наваколле Супрасля і буру каля Семяноўскага вадаёма

# Даўняе і сучаснае Падляшша на фатаграфіях

Падчас першых выпускаў фотаконкурсу, які канчаткова стаў Агульнапольскім фатаграфічным конкурсам «Падляшша ў аб'ектыве» імя Віктара Волкава, на здымках можна было часта ўбачыць Белавежскую пушчу, крыжы, драўляныя цэрквы і вясковае жыццё ў мінулым. Калі ў конкурсе, які ад пачатку арганізуецца Музеем і асяродкам беларускай культуры ў Гайнаўцы, сталі прымаць удзел жыхары розных куткоў Польшчы, а нават замежжа, у белмузей стала паступаць штораз больш фатаграфій з аддаленых ад Белавежскай пушчы месцаў Падляшша. Сталі таксама перамагаць аўтары здымкаў, якія ўвекавечваюць сучасны горад з яго тэхнічнымі дасягненнямі. Узровень прэзентаваных на конкурсных экспазіцыях фатаграфій апошнімі гадамі быў высокі і так было сёлета. Фатаграфіі Віктара Волкава, патрона гайнаўскага фотаконкурсу, для многіх фатографаў з'яўляюцца ўзорам, хаця фатаграфаванне ў духу славутага фатографа не гарантуе перамогі.

Абвяшчэнне вынікаў XII Агульнапольскага фатаграфічнага конкурсу «Падляшша ў аб'ектыве» імя Віктара Волкава адбылося 18 снежня ў Гайнаўскім белмузеі. Мерапрыемства адкрылі дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк з віцэ-старастай Гайнаўскага павета Ядвігай Дамброўскай і запрошанымі членамі конкурснай камісіі — Тамашам Класоўскім і Яраславам Хырам. Падвялі яны вынікі конкурсу, яго пераможцам уручылі ўзнагароды, а астатнім удзельнікам — дыпломы. У гэтым годзе 53 аўтары даслалі 145 здымкаў і з гэтага ліку камісія выбрала 35 лепшых прац, шырокафарматныя фотакопіі якіх будуць шыкарна прэзэнтавацца на пастаяннай выставе ў Гайнаўскім белмузеі да восені 2017 года.

— Хаця сёлета крыху менш удзельнікаў конкурсу, чым было іх у мінулых гадах, то іх усё ж многа. Аднак для мяне самае важнае, што ўзровень прэзентаваных фатаграфій высокі і паказваюць яны разнароднасць Падляшша. Фатаграфіі для экспазіцыі адабрала камісія і для іх аўтараў гэта ўжо вылучэнне. Калі турысты прыйдуць у наш музей і пагледзяць выставу конкурсных фатаграфій, можа схочуць яшчэ раз прыехаць на Падляшша і наведаць бачныя на здымках цікавыя месцы, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк, які паінфармаваў, што ганаровымі патронамі фатаграфічнага конкурсу з'яўляюцца маршалак Падляшскага ваяводства і бургамістр Гайнаўкі, а спонсарамі — Гарадская ўправа Гайнаўкі, Павятовае староства ў Гайнаўцы, Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства і Культурны цэнтр Рэспублікі Беларусь у Варшаве. Сярод медыйных патронаў конкурсу апынуліся беларускія СМІ — Радыё Рацыя і тыднёвік «Ніва».

Арганізатары фотаконкурсу абвясцілі, што ў дванаццаці яго выпусках прыняло ўдзел каля 700 фатографаў аматараў, у тым ліку з Гайнаўшчыны, якія на конкурсныя агляды даслалі каля 2 тысячы здымкаў.

— Падляшша на фатаграфіях гэта дзве краіны. Старое Падляшша прадстаўляюць драўляныя хаты, бабулькі і праявы бяды, а сучаснае — перш за ўсё гарадскія краявіды. Канешне, лягчэй зрабіць арыгінальныя здымкі старога, якія паказваюць жыццё ў мінулым і атрымаць толькі вылучэнне. Але за некалькі гадоў могуць яны стаць фатаграфічнымі шэдэўрамі. Узровень прысланых на сёлетні конкурс фатаграфій быў вышэйшы ад мінулагодніх здымкаў, — сказаў член камісіі Тамаш Класоўскі.

Яраслаў Хыра, таксама член камісіі, пахваліў удзельнікаў конкурсу за цікавыя здымкі і заахвочваў працягваць фатаграфаваць у будучыні. Віцэ-староста Ядвіга Дамброўская падзякавала ўсім удзельнікам конкурсу за здымкі, якія паказваюць прыгожасць Падляшша і прамуюць у краіне Гайнаўскі павет і цэлае наша ваяводства.

— Некаторыя прысланыя на конкурс здымкі звяртаюцца да фатаграфій Віктара Волкава як тэмамі, так і сваім кліматам, але ёсць таксама фатаграфіі выкананыя па-сучаснаму, — заявіла Агнешка Ціханюк з белмузея, арганізатарка конкурсу.

Здымкі ацэньвала журы пад старшынствам Бажэны Валенцік. Лаўрэат першага месца конкурсу Славамір Катара з Мінска-Мазавецкага перамог дзякуючы здымку з каровамі ў вадзе на фоне імглы. Фатаграфія была зроблена з берагу ракі Бобры ў манеры здымкаў Віктара Волкава. Гайнаўскія фатографы былі згодны з камісіяй, што гэта класны здымак. Аднак фатаграфаванне кароў не такое ўжо арыгінальнае. Здымкі з каровамі на полі і каля хлява перамагалі падчас папярэдніх выпускаў конкурсу «Падляшша ў аб'ектыве». Другое месца заняла Беата Вільчынская са Студзянак, якая сфатаграфавала рэчку Супрасль і яе наваколле, а таксама буру каля Семяноўскага вадаёма.



■ Вынікі конкурсу падводзяць дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк, віцэ-староста Гайнаўскага павета Ядвіга Дамброўская і члены камісіі Тамаш Класоўскі і Яраслаў Хыра

— Я — самавучка і фатаграфую ад трох гадоў. Па прафесіі я — жывапісец, вучылася мастацтву ў Супраслі і Познані. Мая адукацыя дапамагае фатаграфаванню, якім займаюся дадаткова. Падчас фатаграфавання звяртаю ўвагу на святло і стараюся перадаць мае эмоцыі, — гаварыла Беата Вільчынская.

Трэцяе месца камісія прызначыла Крыстыне Бэрндт з Быдгашчы за тры фатаграфіі старэнькіх хат. На жаль, Крыстына Бэрндт і лаўрэат першага месца не прыбылі ў белмузей на падвядзенне вынікаў фотаконкурсу. Вылучэнне атрымаў Кшыштаф Баравік з Гайнаўкі, які фатаграфаваў зуброў. На выставу быў адабраны яго здымак з зубром, які рвануў на мужчыну і гатовы ўзяць яго на рогі.

— Я апошнім часам фатаграфаваў перш за ўсё зуброў. Узнагароджаны здымак выканаў я на паляне каля Тэрэмісак. Там найчасцей можна спаткаць зуброў і так было на гэты раз. Убачыў я там мужчыну, які прыехаў на машыне з нумарамі з-па-за нашага ваяводства. Ён вельмі блізка падышоў да двух зуброў і стаў іх фатаграфаваць, калі тыя ляжалі на зямлі. Не звяртаў ён увагі на другога зубра, які ляжаў за першым. Той другі зубр устаў, страсянуўся, грабануў капытамі па зямлі і рвануў у напрамку мужчыны, які позна яго заўважыў. Калі зубр хутка набліжаўся да мужчыны і гатовы быў узяць яго на рогі, той у апошні момант адскочыў убок. Калі б гэтага не зрабіў, зубр рогам распароў бы яму жывот або грудзі, а так зубр рогам трапіў у аб'ектыў фотаапарата і разбіў яго. Патрацію гэты чалавек на разбітым аб'ектыве, але пазбегнуў ранення, а можа і транспарту верталётам у шпіталь і складанага лячэння, — сказаў Кшыштаф Баравік.

Іншы гайнавянін Марцін Закшэўскі атрымаў вылучэнне за здымак з ваўкамі, зроблены на чыгуначным пуці ў Белавежскай пушчы.

— Робячы здымак, я не баяўся ваўкоў, якія стаялі непадалёк мяне, бо яны без прычыны не атакуюць людзей, — заявіў Марцін Закшэўскі (мужчына, якога на здымку атакуе зубр, пэўна таксама думаў, што зубры без прычыны не атакуюць людзей).

Вылучэнне ў конкурсе атрымалі яшчэ Мая Аксэнтовіч з Орлі, Цэзары Назарка і Грыгорый Сулкоўскі з Беластока, Моніка Лашкевіч з Любліна і Лех Івінскі з Плятарова. Мая Аксэнтовіч з Орлі, якая, на жаль, не прыбыла ў белмузей, паказала вясковы клімат, сфатаграфаваўшы старэйшую жанчыну, калі тая выконвала розныя працы. У фатаграфічным конкурсе прынялі ўдзел таксама настаўнік фізікі Дар'юш Мусюк і вучаніца Ганна Хомчук з Гайнаўскага белліцэя. Ганна сфатаграфавала дэталі хат у Новым Беразове і прыроду каля гэтай вёскі, а Дар'юш Мусюк рабіў здымкі ў наваколлі Гайнаўкі, але іх фатаграфій камісія не кваліфікавала на выставу. На экспазіцыі ў белмузеі можна ўбачыць іншыя цікавыя месцы Гайнаўскага павета, але найчасцей аўтарамі здымкаў з'яўляюцца турысты, якія наведалі Гайнаўшчыну і сфатаграфавалі тое для іх прыгожае, што ўбачылі ў наваколлі вядомай на ўсю Еўропу Белавежскай пушчы. У цэлым здымкі на выставе паказваюць асаблівасці прыроды Белавежскай і Кнышынскай пушчаў, рэк Бобра і Нарва, дзікую звярыну, драўляную архітэктуру і людзей Падляшша.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



# Мае 20 гадоў з „Нівай”

(частка II)

**ВЫСТАВА ІНСПІРАЦЫЯЙ**

Мая гістарычна-фатаграфічная выстава „Пяць стагоддзяў Орлі і ваколіц” у школе ў верасні 1998 года, а дакладней — прадстаўленыя на ёй здымкі і фатаграфіі, апублікаваныя ў „Ніве” цягам няпоўных двух гадоў, вельмі ўсхвалявала кінааператара-дакументаліста Мікалая Нестаровіча. Ён адразу наведаў мяне дома і спытаў: „Адкуль ты ўсё гэтае ўзяў?”. У памятнай кніжцы 26 верасня 1998 года напісаў: „**Wielkie dzięki za wystawę, która pobudziła pamięć o czasach minionych, która stała się również inspiracją do realizacji filmu o Orli**”. Пачалася рэалізацыя фільма, дзе галоўным героем мела быць мая асоба — карэспандэнта. Наведвалі мы пажылых людзей, ездзілі па старыя могілкі, запісалі шмат матэрыялу. Нечаканая смерць кінааператара спыніла рэалізацыю.

**НЕПАХВАЛЬНЫЯ ПАВОДЗІНЫ**

Карэспандэнт мае права пісаць на любую тэму, якая з яго пункту гледжання мае грамадскую значнасць, а асабліва паказваць цікавых людзей, дасягненні і гісторыю рэгіёна. Калі я пачынаў пісаць, адзін з маіх старэйшых знаёмых падказваў мне: „От, будзеш запісваць успаміны, гісторыю, а іншых спраў не чапай, навошта задзірацца...”. Але як ставіцца абыякава да зла? Як можна было ігнараваць, калі малады чалавек расказвае, што мясцовы паліцыянт пабіў яго, распранутага дагала, на пастарунку ў Орлі? Правёў з ім размову. Рэдакцыя выслала мяне, каб яшчэ паразмаўляў з тым паліцыянтам: „Ідзі, не бойся, гэта ён будзе баяцца” — падбадзёрыў мяне галоўны рэдактар („Страхоўка ў наручніках”, „Ніва” ад 11.01.1998 г., 25.01.1999 г. і 8.02.1999 г.).

Журналіст мае права дабівацца праўды. Запісваў я чалавека, яго працу, паводзіны, зацікаўленні, пакідаў памяць пра яго. Папракаў непахвальныя паводзіны, пісаў пра трагічныя здарэнні, дзеля памяці і асцярогі — каб зло не вярталася.

**ІНТЭРВЕНЦЫІ**

Часта я кранаў інтэрвенцыйныя тэмы. Пісаў, між іншым, пра ваду для Шчытоў („Чыстая вада Шчытоў”, „Ніва” ад 7.11.1999 г.), пра ўстанаўленне дарожных знакаў („Скрыжаванне смерці”, „Ніва” ад 6.04.1997 г., „Разметка ў Орлі”, „Ніва” ад 14.11.1999 г., „Вёска з воўчай назвай”, „Ніва” ад 3.09.2000 г.), пра падатковую льготу для пенсіянера („Каб не давесці гміну да торбы”, „Ніва” ад 17.02.2002 г.), пра патрэбны мост („Дзіравы мост”, „Ніва” ад 15.07.2001 г.), пра здзічэлых сабак („Атакуюць нават днём”, „Ніва” ад 2.09.2001 г.), пра дзіравы дах сінагогі („Фатэлі ў арлянскай сінагозе”, „Ніва” ад 28.04.2002 г.) і пра многія іншыя справы.

Людзі ўздыхнулі з палёгкай, калі пасля года судовых разбораў Раённы суд у Бельску-Падляшскім апраўдаў карэспандэнта Міхала Мінцэвіча, які абвінавачваўся ў паклёпе на ранейшага арлянскага войта („Гнілыя яблыкі разладу”, „Ніва” ад 26.05.2002 г.).

**ПАДЫХОД ДА ТЭМ**

Кожную тэму, якую кранаю, мушу ведаць. У выпадку ўспамінаў трэба ўмець слухаць і далікатна падпытваць. Але здаралася, меў некалькіх такіх суразмоўцаў, якія бывалі ў бежанстве ў тых самых месцах і кожны з іх запамятаў тамашнія падзеі інакш, у кожнага свая памяць і я ў такіх выпадках мог часам — на іх здзіўленне — нешта падказаць, пакіраваць размовай.

Яшчэ інакш апытвальнік, калі ён допытлівы, павінен размаўляць ва ўстановах. Гэта не заўсёды двухбакова прыемнае; тады трэба трымацца фактаў.

Большасць людзей распытваў я толькі аднаразова, але бывалі і такія, якіх жыццёвы досвед быў большы і з імі размаўляў шмат разоў (Наташа Камарчук, Мікалай Багацэвіч ці Зінаіда Нядзельская — усе з Орлі).

Зусім інакш падыходзіў я да размовы са спецыялістамі. Бывала, што спярша знаёміўся са спецыялізаванай літаратурай. Тады размова з такім чалавекам выглядала як гутарка двух спецыялістаў. Субяседнік рады, што ставіцца яму сэнсоўныя пытанні, ды і змест размовы становіцца багацейшым і цікавейшым. Большасць спецыялістаў ужо не займаецца сваёй прафесіяй, але іхнія майстэрні і прылады захаваліся. Напрыклад, ганчару хапіла знесці з гарышча ганчарнае кола („Кафля з Орлі была добрай”, „Ніва” ад 6.02.2005 г.) Неаднаразова было відаць як яны шкадавалі, што іхняя прафесія не знайшла прадаўжальнікаў у сям'і. Часта былі гэта людзі, якія ўжо патрацілі здароўе, але вельмі ахвотна вялі мяне ў сваю майстэрню, бралі ў рукі прылады, часта ўласнай вытворчасці, і намагаліся паказаць, як калісь працавалі. Мне самому неаднаразова цяжка было паверыць, што іхняя спецыяльнасць адыходзіць у нябыт, становіцца непатрэбнай („Ветэран вайны і працы”, „Ніва” ад 9.02.1997 г.). Часта ўспаміны перапляталіся з ваеннымі перажываннямі. Здаралася, што чалавек заракаўся, што ўжо гэта апошні год яго працы, але пасля аказвалася, што працаваў ён надалей, асабліва дачыліва гэта жывёлаводаў („Канявод са Збуча”, „Ніва” ад 5.03.2000 г.). Героямі маіх допытаў былі і мужчыны, і жанчыны: ткачыха палавікоў („Працавала я змалку”, „Ніва” ад 2.07.2000 г.), або нават сужонства, якое займалася саломапляценнем („Пляценне ў зімовы час”, „Ніва” ад 30.01.2000 г.)

Бывала, што калі меў сумненні, тады звяртаўся ў рэдакцыю, да галоўнага рэдактара Віталя Лубы, а ён заўсёды ўмеў мне ўсё высветліць; шаную яго за падыход да праблем, за жыццёвую мудрасць. Удзячны я таксама і цяперашняму галоўнаму рэдактару Яўгену Вапу за магчымасць супрацоўніцтва.

Варта падкрэсліць, што „Ніва” станоўча паўплывала на рашэнне пра ўсталяванне дадатковых назваў мясцовасцей на мове беларускай нацыянальнай меншасці („Беларускія назвы ў Арлянскай гміне! Віншуем!”, „Ніва” ад 11.10.2009 г.).

**ПРА ЦАРКВУ**

Пісаў я на розныя тэмы: пра яўрэяў, пра помнікі даўніны, аб прыродзе ды часта пра царкоўныя справы. Мае допісы былі вялікія. Калісь мой чытач з Кашалёў Сцяпан Каляда сказаў мне: „Калі ты напішаш, то ўсё ясна і камар носа не ўсадзіць”.

Пісаў я пра святкаванне Каляд і Вялікадня, пра іншыя найважнейшыя царкоўныя святы, пра могілкі, пра прыдарожныя крыжы, пра юбілей арлянскай царквы, пра юбілей настаяцеля, пра прыходскае свята Іаана, пра ўсе візіты ў Орлю царкоўных саноўнікаў. Хачу падкрэсліць, што ўжо каля трыццаці гадоў фатаграфую найважнейшыя царкоўныя падзеі ў Орлі; здымкаў хапіла б на некалькі альбомаў. Некаторыя буйнафарматныя фатаграфіі аправіў я ў рамкі і падарыў арлянскім святарам на памятку. Пісаў я пра царкоўныя справы, а газету, бывала, заносіў на плябанію настаяцелю Аляксандру Такарэўскаму. Матушка з усмешкай паведамляла, што яны заўсёды чытаюць „што ў „Ніву” напісаў Мінцэвіч”.

**СА ШКОЛАЙ**

Былі гады, калі вельмі добра складвалася маё супрацоўніцтва з арлянскай школай; дырэктарамі былі Яўгенія Васілюк і пасля Дар'юш Гарадэцкі, а настаўніцамі беларускай мовы — Анна Шыманская і Яўгенія Тхажэўская. Пісаў я ў 1998, 1999 і 2001 гадах пра арлянскіх скаўтаў, што заклікалі вясну, пра восень, пра школьны дэкламатарскі конкурс, пра спорт, пра выдатнікаў, пра школьніцтва ў Арлянскай гміне, пра старыя школы і іншае. Дырэктар Дар'юш Гарадэцкі, хаця нетутэйшага паходжання, актыўна мне памагаў у арганізаванні маіх выставак; ён вельмі зацікаўлены захаваннем і развіццём арлянскай шматкультурнасці.

**СПІСАЦЬ І ЗАХАВАЦЬ ХРОНІКУ**

Жыццё звычайных жыхароў даўняй і цяперашняй Орлі вызначалі вялікія і малыя падзеі, у ліку якіх былі і такія, якія засталіся толькі ў кароткай памяці найбліжэйшых. Таму я так заўзята стараўся запісаць і захаваць хроніку звычайных падзей і людзей. Каб маладое пакаленне не забылася. Каб у школе ці інтэрнэце былі матэрыялы і здымкі, каб заўсёды было можна аднавіць тую памяць. Пакуль не было матэрыялаў у інтэрнэце, бывала, што вучні і студэнты звярталіся за рознымі матэрыяламі да мяне.

Штогод назаўсёды адыходзяць ад нас пажылыя людзі, забіраючы з сабою цэлую багатую вопытам эпоху: мужыцкую перагружанасць працай, голад і холад, галечу, беды, ваенныя жахі. Нягледзячы на цяжкія жыццёвыя ўмовы, змаглі яны як трэба выхаваць сваіх нашчадкаў. І ўсе яны ў саноўным узросце астаюцца каштоўнымі інфарматарамі пра мінуўшчыну. Простыя, і адначасна незвычайныя, людзі шчыра расказвалі пра сваё жыццё, пра свае хваляванні, дзяліліся сваімі разважаннямі.

Колішнія рамёствы амаль не захаваліся. Чахнуць яны і знікаюць разам з адыходам рамеснікаў. Разнавіднасць рамёстваў у даўняй Орлі выдатна характарызуе здольнасці, кемлівасць і працавітасць мясцовых рамеснікаў. Кожны з іх, пра каго я пісаў, сваімі стараннямі прычыніліся да росту арлянскага дабрабыту, які не заўжды вымяральны грашыма.

**КАШТОЎНЫЯ ІНФАРМАЦЫІ**

Сабраныя інфармацыі пра мінулае варта было б змясціць у кніжным выданні, якое ўзбагаціла б рэгіянальную гістарыяграфію. На жаль, ёсць такія людзі, якім гэта камяком у горле тырчыць. Выставу пра забытыя прафесіі, арганізаваную ў 2007 годзе ў гміннай бібліятэцы, часткова быў знішчыў падпіты хуліган...

Наладзіў я пяць розных выставак у 1998-2010 гадах. І на ніводным іх адкрыцці не было гмінных уладароў. А прысутнасць іх гэта ўшанаванне і аўтара, і тых, каму выстава прысвечана. Мясцовыя ўлады не зацікаўлены выданнем кнігі, прысвечанай мінуламу стагоддзю Арлянскай гміны...

З нагоды 60-годдзя шчырыя віншаванні Рэдакцыі „Нівы” і каб як найдаўжэй мог я далей супрацоўнічаць.

Міхал МІНЦЭВІЧ

## Міхалоўская дэмаграфія

Зараз у Міхалоўскай гміне Беластоцкага павета пражывае 6 790 чалавек у 69 населеных пунктах. Адна мясцовасць — Калітнік — адышла ў нябыт. Застаўся па ёй толькі дарожны ўказальнік. На памяць. Плошча гміны — 409 квадратных кіламетраў, гэта 14% плошчы павета. Суседнія з ёю гміны: Гарадоцкая, Нараўчанская, Нарваўская і Заблудаўская. З усходу — мяжуе з Рэспублікай Беларусь.

Цераз Міхалова пераплывае рэчка Супрасль, прыток Нарвы. Краем паўднёвай часткі гміны плыве Нарва. Вёскі Сушча і Супруны знаходзяцца на Падляшскім бусліным шляху. 48% тэрыторыі гміны займаюць сельскагаспадарчыя ўгоддзі і 37% лясы. Ёсць унікальны запаведнік прыроды Горбач. Тут тарфянікі і рэдка дзе спатыканае возера Горбач. Шчыльнасць насельніцтва — 17 чалавек на квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадае 101 жанчына. Ва ўзроставай групе 85 гадоў жанчын больш... у чатыры разы. О-го. Жанчыны жывуць даўжэй ад мужчын. А чаму тады так гавораць, што жанчыны слабы пол? У Міхалоўскай гміне ёсць пяць цэркваў і два касцёлы. Гэта сведчыць аб тым, што дзе як дзе, але тут жыве шмат беларусаў.

У 2010 годзе ў гміне пражывалі 7 154 чалавекі, у 2011 — 7 088, у 2012 — 6 975, у 2013 — 6 886, у 2014 — 6 775 і ў 2015 годзе — 6 792 (!). Як бачым, жыхароў з кожным годам было ўсё менш і менш.

У Міхалоўскай гміне найбольш людзей жыве ў горадзе Міхалова — амаль палавіна ўсіх жыхароў гміны. Найбольшымі вёскамі з'яўляюцца Новая Воля, Ялоўка, Бандары, Шымкі, Саколе, Навасады, Казімірова, Тапаляны, Жэдня, Геранімова, Юшкаў Груд і Кабылянка. Да сярэдніх па колькасці жыхароў належаць Цісоўка, Пянькі, Мастаўляны-Калёнія, Леўшы, Масціска, Бахуры, Патока, Азяблы, Баршчэва, Цівaнюкі і Тыльвіца.

У малых і сярэдніх вёсках жывуць пераважна старэйшыя людзі, у тым ліку ўдаўцы і ўдовы ды старыя кавалеры. У іх няма вяселляў і хрэсьбінаў. Затое бываюць г.зв. залатыя вяселлі — так прынялося, што іх спраўляюць пасля 50-гадовага шлюбнага сужыцця. У 2016 годзе ў зале шлюбаў у Міхалове два разы ўручалі медалі за шматгадовае шлюбнае жыццё: у першай палавіне года для 7 пар і ў лістападзе для 11 пар. 19 лістапада атрымалі іх Ніна і Фёдар Анацікі, Дарота і Уладзімір Буднікі, Галіна і Мікалай Грыкі, Зофія і Віктар Грыгорчукі, Галена і Юзэф Казберукі, Галіна і Анатоль Лаўрэшукі, Зіна і Яўген Монахі, Марыя і Міхал Асташэўскія, Крыстына і Уладыслаў Пыркі, Рэгіна і Казімір Віркоўскія ды Галіна і Ян Зубрыцкія. На так званай Усходняй сцяне вёскі адміраюць. Тут пахавіны бываюць часта. Гэта сумна, але факт.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

Словы Міры Лукшы

## Вяночак

Вырасла дзяўчына сярод кветак.
Зацвіла як ружа ў поўні лета.
Не зрывайце ружы, не ламіце,
Не тапчыце васількоў у жыце.

Запляту вяночак з канюшыны,
Куколя, рамонкаў і шыпшыны.
Раса на вяночку – а не слёзкі.
Грудзьмі прытулюся да бярозкі.

Паміж кветачак запалю свечку.
Укіну той вянок у быструю рэчку.
Хто мяне схоча і адгадае,
Мяне сярод кветак адшукае.

Ці сон гэта будзе альбо казка?
Сэрца мне кранулі шчасце, ласка.
Бо злавіў вяночак мой каханы.
Будзе маім мужам ён названы.

Спявае гурт «Сказка»
з Беластока


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі





# Каляда ў Залуках

Многія дарослыя прызнаюць, што з цягам часу магія Каляд знікае за туманам паўсядзённых абавязкаў. Таму няма ніякіх сумненняў, што яны хацелі б вярнуцца ў сваю маладосць, калі на кожным кроку заўважны былі калядныя акцэнты, якія стваралі непаўторную атмасферу чакання. Многія дарослыя напэўна цёпла ўспамінаюць школьныя яслі, ладжаныя з нагоды надыходзячых святаў. Вось магчыма таму Каляда ў Непублічнай пачатковай школе ў Залуках карыстаецца такой папулярнасцю. Тут 21 снежня, напярэдадні каталіцкіх святаў і тыднёвых зімовых канікул, сустрэліся не толькі вучні і настаўнікі, але таксама выпускнікі, бацькі, дзядулі і бабулі і шматшмат дастойных гасцей.



Звычайная гімнастычная зала школы ў Залуках змянілася ў незвычайную, бо святочную. Усюды віселі сняжынкі і каляровыя лямпачкі. На сцэне — вялікая карціна з выявай Божай Маці, святога Язэпа і маленькага Ісуса. Відаць было, што сапраўды шчыра ўсе рыхтаваліся да прыняцця гасцей. А было іх шмат! Некаторым нават трэба было стаяць у калідоры. Тыя, хаця не ўсё дакладна бачылі, затое выдатна чулі калядкі ў выкананні вучняў. Былі, вядома, на беларускай мове, але таксама на польскай і... англійскай. Варта таксама дадаць, што не толькі зала ўражвала сваёй прыгажосцю, але перш за ўсё пераапранутыя вучні. Найбольш было крылатых анёлкаў, але былі таксама авечкі, мышка, ці Супермен! Вось Шымон Карлаў, калі даведаўся, што ў беларускай пастаноўцы выступае Супермен, быў упэўнены, што тая роля будзе яго. Вучні паказалі сцэнку на аснове «Прыгод мышкі Пік-Пік», якія супольна з настаўніцай Альжбетай Раманчук чыталі ў адрэзках на старонках «Зоркі». І, здаецца, што ўжо традыцыйна беларускамоўная пастаноўка найбольш уразіла публічнасць. Сведчылі аб гэтым усмешкі на тварах, а таксама гарачыя, доўгія апладысменты.



Але не толькі дзеці рыхтаваліся да школьнай Каляды. Штогод, каб паглядзець выступы вучняў і павіншаваць іх са святам, прыязджаюць войт Гарадоцкай гміны Веслаў Кулеша, госці з Маршалкоўскай управы з Беластока і мясцовыя святары. Прыходзяць таксама бацькі, дзядулі і бабулі галоўных зорак мерапрыемства. Айцец Славамір Якімюк, які ўвасобіўся ў ролю святога Мікалая, прызнаўся, што адмыслова на гэтае мерапрыемства цягам цэлага года адпускаў бараду. Аднак вучні ўсё-такі праверылі ці напэўна так было, тузаючы бацюшку за бараду. Была сапраўдная! І вам, дарагія чытачы «Зоркі», жадаем сустрэць у сваіх дамах такога сапраўднага Мікалая.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

Ізабела БАРОЎСКАЯ,
Заблотчына, Гімназія ў Нараўцы

## Поры года

Прыгожая, светлая і зялёная
часта бывае вясна,
трава расце як шалёная,
у коцікі аздобілася лаза.

Кветкі, дрэвы, пупышкі, лісце,
гукі, спевы, шум, гульня,
у колеры зямля адзета,
зараз міне і гарачае лета.

Лістапад гэта ўжо восень
з дрэваў лісткі ён пастрасаў,
шыкуй цёплую адзежу
і зіму цяжкую чакай.

Калі мінуць снягі і маразы,
ты не спі, не чакай,
а бярыся ўжо да работы
і чаканую вясну прывітай.

## УВАГА КОНКУРС! № 01-17

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 15 студзеня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Што за кавалер, каторы**
**Мае рыцарскія шпоры?**
**Носіць на хвасце вясёлку,**
**Падымае ўсіх на золку?**
**П.....**

**(У. Мацвеенка)**

**Загадкі з роднай хаткі**

**Адказ на загадку № 50: сняжынка.**
**Узнагароды, эксклюзіўныя фотальбомы «Powiat Hajnowski — bogactwo przyrody i kultury» выйгралі Дам'ян Карнілюк, Наталля Маркевіч з Бельска-Падляшскага, Матвей Зыскоўскі з КШ № 1 у Гайнаўцы, Марыя Урбановіч з Нарвы. Віншуем!**
**Узнагароды ўфундаваў Гайнаўскі стараста Міраслаў Раманюк.**

# Безнадзейны сябра

*(казкі народаў Каўказа)*

Быў у аднаго горца конь. Верна служыў свайму гаспадару, цяжка працаваў. А гаспадар карміў яго абы-чым і яшчэ пугай сцёбаў. Рашыў конь уцячы прэч з двара. Вызваліўся ён з путаў і паляцеў далёка-далёка. Бяжыць ён праз лес, а насупраць галодны воўк ідзе.

— Куды імчыш, вараны?

— Бягу, куды ногі панясуць! Даў драла ад свайго гаспадара. Досыць няволі!

— А вось ад мяне ты не ўцячэш, — сказаў воўк, — я цябе з'ем!

— Калі ты галодны, дык ад мяне не наясіся, адны косці і скура на мне. Лепш, будзем сябраваць, разам яду здабываць. А што здабудзем, па палавіне падзелім.

Згадзіўся воўк, ён сам быў ужо стары. Сталі яны разам жыць, хадзіць на паляванне.

Аднойчы воўк злавіў лісу. Схапіў яе за хрыбет і хацеў есці. Бачыць хітруха — бяда. Ды яна кажа ваўку:

— Бачыш шэры, ты хочаш мяне з'есці, аднак я не буду для цябе адпаведнай ядой. Я пахудзела так, што толькі скура і косці на мне. Лепш давай пасябруем. Будзем разам дружыць, па палове яду дзяліць.

Сталі воўк, ліса і конь разам жыць. Пайшлі яны аднойчы на паляванне. Доўга хадзілі, нічога не знайшлі, не злавілі. Пад вечар прыйшлі да пячоры і там заначавалі.

Раніцай упаў снег. Дзе ж яду шукаць? З пячоры цяжка ваўку і лісіцы выкарабкацца, гурбы засыпалі ўваход. Конь выйшаў, разгроб капытамі снег, паеў сухой травы і пайшоў да ручая піць. Толькі ён адышоў, воўк кажа лісіцы:

— Давай з'ядзім каня!

— Мы ж сябры, — кажа лісіца, — як нам яго крыўдзіць?

— Дык прыдумай нейкую хітрасць, абвінавафаць яго ў чым-небудзь!

Падумала лісіца і кажа:

— Як прыйдзе конь, то скажы, што табе сёння сто гадоў, а я пачну гадаць, хто з нас старэйшы.

— І што?

— Пабачыш!

Калі яны гаварылі, конь ужо вярнуўся і падслухаў размову. Рашыў ён пакараць нявермых сяброў. Увайшоў ён у пячору. А воўк кажа:

— Ты сабе лазіш, жарэш траву, а вось я прыгадаў, што сёння ў мяне залаты юбілей. Мне сто гадоў!

Лісіца, калі тое пачула, стала плакаць, слёзкі хвастом уціраe.

— Што з табой, сястрыца? — пытае яе воўк. — Чаму плачаш?

— А вось прыгадала, што сто гадоў таму памёр мой любімы лісік, таму і сумую па ім, плачу…

— Не плач, лісіца, — адказаў воўк, — гэта вельмі даўно было. Ці гэта значыць, што ты старэйшая за мяне? А табе, конь, колькі гадоў?

— Сам то я дакладна не ведаю, але мая маці часта паўтарала, што мой год нараджэння запісала на маім левым капыце. Хто хоча даведацца, хай гляне і сам прачытае…

Падняў конь левую нагу і кажа :

— Глядзіце, сябры!

Лісіца адмовілася:

— Я дрэнна бачу, і так не дагледжу. Хай воўк зірне.

Падышоў воўк, вылупіў вочы і шукае запіску. А тут конь раз, ударыў яго ў лоб. Упаў воўк і дух з яго выйшаў. А лісіца вільнула хвастом, выскачыла з пячоры ды пабрыла па снезе.

Так кончылася сяброўства ваўка, лісіцы і каня. З гэтай пары кажуць: «Воўк каню не сябра і не таварыш».

**(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)**

Юстынка Бакуменка з татам Андрэем і дзядзькам Міхалам. *Фот. Уля Шубзда*

## Вершы Віктара Шведа

### Штучная ёлка і Міколка

Пытае Ясь Міколку:
— Ці маеш ты ўжо ёлку?
— Маем мы ўжо ёлку дома
Толькі штучную, вядома.

І святога Мікалая
Мы у сваёй хаце маем.
Толькі, як сказала мама,
Будзе штучным ён таксама.

### Ці ёсць пустое месца?

Прыйшоў сцежкай палявою,
Пастукаў у дзверы:
— Ці ёсць месца пустое
На калядную вячэры?

— Не можа быць адвольнай
Нашая на гэта згода.
Месца павінна быць вольным
Пры нашым стале заўсёды.

*Замкі і палацы Беларусі*

## МІРСКІ ЗАМАК — ВІЗІТНАЯ КАРТАЧКА РБ

Пра гэты замак ведаем усе, хаця не заўсёды атаясамляем з Рэспублікай Беларусь. Мірскі замак запісаны на старонках «Пана Тадэвуша» як палац Гарэшкаў. Сапраўды, у часы калі апісаны дзеі культавай эпапеі, замак быў у значнай частцы разбураны, але далей выконваў ролю адміністрацыйнага і культурнага цэнтра. Тут разбіраліся судовыя справы і спатыкаліся эліты, каб абмеркаваць лёс краіны. Ды самі гістарычныя падзеі не абміналі Мірскага замка. У адной з вежаў захаваўся аўтограф Напалеона Банапарта, які спыніўся ў замку перад паходам на Маскву. Будоўля не пацярпела ў час Напалеонаўскіх войнаў.

Замак, як больш апісаных намі крэпасцей, першапачаткова меў абарончыя мэты і характар. Пабудавалі яго ў пачатку XVI стагоддзя князі Ільінічы. Аднак найбольшы росквіт дасягнуў за панавання Радзівілаў. Яны мадэрнізавалі крэпасць, надалі яму лёгкі і непаўторны рэнесансавы і гатычны выгляд. Доўгі час месца служыла летнім палацам Радзівілаў. Сюды прыязджалі знакамітыя госці, у тым ліку каралі і князі.

Сучасны назоў замка — ад апошніх уласнікаў замка князёў Святаполк-Мірскіх. У іх руках замак заставаўся ажно да 1939 г. Яшчэ па сённяшні дзень у Міры ходзяць легенды пра князя Міхала Святаполк-Мірскага, які праславіўся як эксцэнтрык і індывідуал. Ён даў пачатак ідэі, каб у замку стварыць музей. У адной з вежаў князь сам наладзіў музей асаблівасцей (збіраў дзіўныя рэчы і прадметы).

Даволі сумны перыяд выпадае на часы нямецкай акупацыі, калі частку замка займае яўрэйскае гета. З месцам звязаны таксама страшныя легенды. Яшчэ адносна нядаўна людзі баяліся купацца ў прызамкавым возеры. Быццам пракляла яго чараўніца за тое, што там утапіўся яе сын. Апошнім часам азерца асвечанае святой вадой ды сам народ ужо крыху сумняваецца ў легендзе, аднак па-ранейшаму баіцца купацца…

Што тут дадаць, Мірскі замак — візітка РБ. Ён адрамантаваны і падсветлены ўначы, у ім таксама дзейнічае музей і гатэль, дзе можна заначаваць. **ЗОРКА**

## Польска-беларуская крыжаванка № 01-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 49:**

Клас, ды, Каляды, ар, ён, факт, смех, след, тын, які, эпоха. Афіша, ліра, купэ, скіт, сто, ял, слых, дзед, ды, Ян, снягір.

Узнагароды, стылусы для смартфонаў, выйгралі **Дам'ян Карнілюк, Мальвіна Маркевіч** з Бельска-Падляшскага, **Мікола Ялоза** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Мартына Лукша** з Наракі, **Магда Драздоўская** з Міхалова, **Патрыцыя Бральская** з Шудзялава, **Аляксандра Кудашэвіч** з Бабік, **Мартына Місяюк, Сафія Семянюк, Габрыеля Крупіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!

Prysznic, Smak, Skała, Mleko, Kadr, Czekolada, Homar, Lira, Dzyń, Rozkosz, Pestka, Igor, As, Nów, Rząd, Grzegorz, Żądło, Nasza, Rzeka, Oda, Rząd

# Бельск-Падляшскі ў кінематаграфіі




Фота Радыё Рацыя

**Не было б вербальным злоўжываннем сцвярджэнне што Бельск-Падляшскі дачакаўся гістарычнай хвіліны ў галіне кінематаграфіі. Гаворка ідзе тут пра фільм «Wnyki» («Сілы») — стужку, шум вакол якой узняўся, пакуль яшчэ пачаліся першыя здымкі. Несумненна ўплыў на гэта меў, між іншым, факт, што фільм меў спасылацца на культавую кінакарціну «Знахар» з 1981 года, у якім неаднойчы паяўлялася панарама Бельска-Падляшскага ды яго жыхары. Важнай спецыфікай «Сілаў» з'яўляецца аднак тое, што там матыў згаданага горада ды яго раёнаў прысутнічае пастаянна. Можна было гэта прыкмеціць 18 снежня — менавіта тады ў Бельскім доме культуры адбылася прапрэм'ера кінакарціны.**

Наяўным доказам зацікаўленасці «Сіламі» быў ужо сам тэмп, у якім распаўсюджваліся ўваходныя білеты на дэманстрацыю фільма — цягам 45 хвілін разышлося 800 квіткоў. Віноўнікам усяго замяшання стала кінастужка, створаная ў асноўным Таварыствам фільмавай адукацыі. Аўтарамі ідэі «Сілаў» з'яўляюцца Матэвуш Сахажэўскі (акцёр, бельскі аніматар культуры), Марк Уладзіміраў (мясцовы кінематаграфіст), Тамаш Суліма (беларускі журналіст, этнолаг, звязаны з Музеем малой бацькаўшчыны ў Студзіводах). Праект выбралі восенню 2015 года жыхары Бельска-Падляшскага ў якасці мерапрыемства, фінансаванага ў рамках грамадзянскага бюджэту горада. Фінансавую падтрымку аказаў таксама Маршалак Падляшскага ваяводства ды мясцовыя ўлады і прадпрымальнікі.

«Сілы» гэта аповесць пра сучасныя перыпетыі сем'яў Чынскіх, Паўліцкіх і Шапеляў, якія былі апісаны ў рамане Тадэвуша Далэнгі-Мастовіча «Знахар», ды паказаны ў аднайменным фільме Ежы Гофмана. У новым фільме галоўным героем з'яўляецца Якуб, які пасля некалькіх гадоў вяртаецца ў свой родны горад і пачынае працаваць журналістам у мясцовай газеце. Падчас пабыўкі ў сваім родным горадзе прыкмячае як змянілася рэчаіснасць у параўнанні з перыядам, калі ён у ім жыў раней. Знаходзіць ён сваю даўнюю і адначасова першую дзяўчыну — Марысю, а таксама сябру са школьных гадоў — Радка. Якуб заўважае, што многа змянілася ў жыцці яго знаёмых, ды ў жыцці яго самога. Падчас пошукаў матэрыялу да першага артыкула трапляе ён на дом у адасобленай ваколіцы, у якім жыве Іаанна Чынская — унучка прафесара Вільчура, галоўнага героя рамана і кінастужкі «Знахар».

Здымкі да фільма «Сілы» працягваліся з чэрвеня да верасня 2016 года. Аўтарам арыгінальнага сцэнарыя «Сілаў» з'яўляецца Міраслаў Мінішэўскі. Адной з мэт дэманстрацыі фільма было паказанне бяльшчанам ды жыхарам Беласточчыны эфектаў працы калектыву перад працэсам постпрадукцыі.

— Перш за ўсё я рады, што ў такім кароткім часе нам атрымалася давесці да прапрэм'еры, — лічыць рэжысёр стужкі Шымон Новак. — Скажу шчыра, што я да канца яшчэ не задаволены эфектам нашай працы. Але лічу, што пасля паказаў, рэакцыі гледачоў ды людзей, ангажаваных у стварэнне фільма, будзем многа дыскутаваць аб ім, выпраўляць яго і прыхарошваць. Ёсць крыху элементаў, якія варта палепшыць, але, згодна з абяцаннямі, мы вырашылі паказаць нашу стужку яшчэ перад канцом года.

У фільме можна пабачыць акцёраў, якія выступілі ў «Знахары», такіх як Артур Барцiсь, Бажэна Дыкель ды Станіслава Цалінская (якая зайграла ролю Іаанны Чынскай), ды іншыя вядомыя постаці польскай кінематаграфіі, напрыклад, Вальдэмар Аблоза, Аркдыюш Янічак, Анджэй Заборскі. У «Сілах» можна таксама пабачыць ігру маладога пакалення. У ролю галоўнага героя — Якуба, увасобіўся Ксавэры Шленкер, а ролю Марысі зайграла Аляксандра Гжэляк, можна было пабачыць, між іншым, таксама Гжэгажа Даўкшэвіча ды Ігара Аблозу. Выступіла таксама музыка Наташа Тапор. Асаблівасцю фільма з'яўляецца прысутнасць у ім бяльшчан — тых, якія штодзень займаюцца акцёрствам, ды тых, для якіх было гэта першае сутыкненне з фільмам ды наогул з акцёрскай ігрою.

Адну з больш відавочных роляў іграў акцёр, выпускнік Тэатральнай Акадэміі імя Аляксандра Зэльвяровіча ды бельскі аніматар культуры Матэвуш Сахажэўскі. Ён увасобіўся ў ролю Радэка Шапеля — сябры байкерскай хеўры.

— Радэк з'яўляецца сябрам галоўнага героя з дзіцячых гадоў. Ён асацыюецца з «адмоўным бокам моцы», але думаю, што аднačасова гледачы могуць адчуць, што як чалавек ён не да канца сапсаваны, тым больш што напрыканцы фільма ў ім адбываецца перамена. Фактам ёсць, што ён разам са сваімі братамі паводзіць сябе быццам па-хуліганску, але з другога боку знаходзіцца ў няпростай лёсавай сітуацыі — мае цяжарную дзяўчыну. Гэта таксама тып чалавека, які патрабуе стабілізацыі і ён здольны да шматлікіх дзеянняў, каб гэтага дабіцца. Такія ролі наогул складаныя, таму што яны неадназначныя і змяшчаюць такія элементы, якія перад гледачом трэба скрываць. Але лічу гэта файным досведам, таму што герой, якога я іграю, урэшце мяняе свае паводзіны, а гэта самае цікавае ў будаванні ролі. Гэта не адзіная мая функцыя пры працы над «Сіламі». Зрэшты, многія з нас — рэалізатараў праекта, акрамя магчымага выступлення ў фільме, мелі таксама шмат іншых абавязкаў. Я, прыкладна, быў таксама асістэнтам кіраўніка ды кіраўніком здымачнай пляцоўкі, а таксама асістэнтам кіраўніка прадукцыі, іншым разам шафёрам. Бывала нават, што я займаўся катэрынгам. Карацей, праца ішла ў розных напрамках, — сказаў Матэвуш Сахажэўскі.

— Я выступіла падчас сцэны канцэрта ў бельскім амфітэатры. Разам з сябрамі мы проста былі сярод натоўпу людзей, які танцаваў, гуляў пры музыцы ўжывую, — кажа Дарота Кондрат. — Падчас здымання фільма я была таксама дзяжурнай па здымачнай пляцоўцы.

— Мяне можна было пабачыць у сцэне, у якой галоўны герой, Якуб, ехаў на матацыкле цераз цэнтр Бельска, побач ратушы. У фільме там знаходзіўся ларок, у якім я выбіраў кветкі, — кажа Бартламей Базылюк. — Таксама падчас сцэны, якую здымалі ў шпіталі, відаць як сяджу на падаконніку і размаўляю з бабуляй і дзядулем. Акрамя ўдзелу ў сцэнах фільма я таксама ахоўваў тэрыторыю здымачнай пляцоўкі, каб ніхто выпадковы з-па-за калектыву не ўвайшоў у тую зону. Дапамагаў і пры пераносе розных лягчэйшых ды цяжэйшых прадметаў, патрэбных падчас тварэння фільма, прыкладна, рэквізітаў.



■ Бельскі акцёр Матэвуш Сахажэўскі

Зразумела, у «Сілах» у меншай ды большай ступені звяртае на сябе ўвагу каларыт Бельска-Падляшскага. Можна пабачыць там тую ж самую вуліцу каля Ратушы, цераз якую на матацыкле яшчэ ў «Знахары» да сваёй любімай, Марысі, ехаў Лешак Чынскі, якога тады іграў Тамаш Штокінгер. Гэтай самай дарогай у «Сілах» ехаў згаданы раней Якуб. Ён таксама шукаў Марысю, але ў гэтым фільме аказалася, што яна знаходзіцца ў бальніцы. Акрамя таго, у стужцы паказаны раёны парку ў цэнтры горада ды ўскрай Бельска, дзе відавочная царква Успення Багародзіцы. У фільме можна таксама пабачыць царкву ў Парцаве, перад якой адбываецца ўрачыстасць пахавання. Іншымі месцамі, якія паказваюць каларыт увогуле Беласточчыны, з'яўляецца драўляная хата, у якой жыве Іаанна Чынская, ды двухмоўныя, польска-беларускія надпісы на дарожным указальніку непадалёк ад Рудутаў. Гэта аднačасова беларускія акцэнты, гэтаксама як шпітальная сцэна, у якой медсястра размаўляе з блізкай асобай на падляшскай гаворцы. Элемент беларускасці ў фільме прысутны і ў завяршэнні, калі гучыць народная беларуская песня «Купалінка».

— «Сілы» гэта фільм польска-беларускага памежжа, — кажа выканаўца ролі бацюшкі, а таксама кіраўнік прадукцыі фільма Тамаш Суліма. — Мы не маглі гэтага адкінуць, мы хацелі паказаць наш культурны пейзаж, культурную разнастайнасць. Беларускія элементы фільма тут, на Падляшшы, напэўна будуць многім зразумелыя і блізкія, а для гледачоў з адлеглых частак Польшчы гэта можа быць нешта зусім новае.

Бельскія гледачы ахвотна пакарысталіся магчымасцю ўдзелу ў прапрэм'еры. Сярод іх можна было прыкмеціць захапленне стужкай.

— Я глядзела фільм з сапраўднай зацікаўленасцю. Кожная сцэна чымсьці прыцягвае. Паводле мяне няма ў ім нудных момантаў, — сцвярджае Данута Шульц. — Вельмі мяне ўразіў таксама клімат тутэйшасці — фільм проста насычаны падляшскім кліматам, значыцца, месцам дзе я насамрэч нарадзілася і жыву. Ёсць таксама адзін мінус «Сілаў» — даўжыня. Стужка магла б быць даўжэйшай, бо проста хацелася б яшчэ больш.

— У мяне былі чаканні наконт таго, што будзе гэта працяг кінакарціны «Знахар». І фактычна тыя элементы, якія звяртаюцца да культавага фільма, ёсць, — кажа Валянціна Лукашук. — Хаця акцыя фільма праходзіць у сучаснасці, да гэтай пары стаяць тыя ж самыя будынкі, захаваліся краявіды, у якіх, ды побач якіх у 1970-я гады быў зняты фільм «Знахар». У адрозненні ад «Знахара», у «Сілах» больш дынамічных, часам крыху жорсткіх момантаў. Тое аднак не здзіўляе, бо стужка створана ў XXI стагоддзі — у часах, дзе такія сцэны як у фільмах у рэчаіснасці проста здараюцца. Цікавай справай з'яўляецца таксама факт, што ў фільме магу пабачыць не толькі акцёраў, якіх ведаю з кінаэкрана, але таксама тых, якіх штодзень сустракаю на вуліцах Бельска.

Як гарачая падзея дэманстрацыя фільма «Сілы» прыцягнула таксама гледачоў з Беластока:

— Зразумела, я чакаў асацыяцыі з фільмам «Знахар». І аказалася, што ёсць там многа такога тыпу спасылак, — лічыць Радэк Пусько. — Другой істотнай справай з'яўляецца факт, што гэты фільм ёсць «зсюль», падляшскі. Чароўнасць і магія «Сілаў» абапіраецца таксама на тым, што сярод акцёраў маем тут экстраклас польскага кіно, ёсць таксама акцёры маладога пакалення — у будучыні або і ўжо — зоркі, і перш за ўсё іграюць жыхары Бельска-Падляшскага, для якіх напэўна гэта таксама асаблівая падзея — напрыклад, будуць магчы пахваліцца сваім нашчадкам, што выступалі ў фільме. Вялікім плюсам з'яўляецца таксама фабула. У фільме бачу таксама і мінус. На гэты час у стужцы яшчэ недапрацаваны гук. У некаторых месцах сцэны проста нечытэльныя.

— Шчыра кажучы, я спадзявалася аматарскай працы. Я прыехала ў Бельск на паказ з талерантнасцю на недахопы ў фільме, — кажа Анна Лушынская. — Аднак аказалася, што калектыў сабраны пры фільме выканаў добрую працу. І я вельмі рада таму, што пабачыла «Сілы». Гэтая стужка добра глядзіцца, бо мае добрую фабулу, а што за гэтым ідзе, добры сцэнарый. Можна сказаць, што фільм мае хрысціянскае завяршэнне — у апошняй сцэне наступае прымірэнне пасвараных герояў. Акрамя таго, мае карані выводзяцца з Бельшчыны, таму ад самога пачатку да канца я адчувала быццам я была на сваёй бацькаўшчыне. Аднačасова мушу сцвердзіць, што не ў кожнай сцэне мае́цца якасны гук. Але з таго, што я чула, фільм чакае яшчэ працэс постпрадукцыі і, мабыць, будзе яшчэ лепшы, хаця я ўжо зараз лічу яго добрым.

У 2017 годзе пабачыць «Сілы» будуць мець магчымасць таксама жыхары іншых раёнаў Польшчы. Плануецца агульнапольская прэм'ера стужкі:

— Я вельмі хацеў бы, каб дэманстрацыя фільма адбылася вясной. Дата прэм'еры залежыць ад таго, як будуць працягвацца працы над постпрадукцыяй, што, між іншым, будзе звязанае з бюджэтам стужкі, — лічыць рэжысёр Шымон Новак. — Маю таксама надзею, што наша прыгода з «Сіламі» будзе працягвацца, бо ёсць у нас і жаданне, каб было яшчэ агульнапольскае распаўсюджванне фільма. На гэты момант напэўна магу сказаць, што я ўражаны пазітыўным водгукам бельскіх гледачоў на фільм.

Чатыры кінасеансы з поўнай (бывала што і з перапоўненай) залай гледачоў, агулам каля 1200 чалавек, якія бачылі фільм — гэта доказ важнасці кінастужкі. Дарэчы, прапрэм'ера «Сілаў» паказала пазітыўныя тэндэнцыі сярод грамадскасці Бельска-Падляшскага. Прынамсі ў перыяд здымання фільма і яго дэманстрацыі ўзрасла зацікаўленасць прамоцыяй горада і культурай у ім. Важна, каб такія тэндэнцыі былі відавочныя наогул.

Тэкст і фота **Мацея РАЦІНЕЎСКАГА**



(працяг з 52 н-ра)

# Гаспадарыў і спяваў

## Успаміны Уладзіміра СУПРУНЮКА з Рыбал

### Брат Іван

Майго брата Барыса забралі ў Нямеччыну акопы капаць. Але брат у дарозе ўцёк. А другі мой брат, Іван, працаваў пры немцах у Лапах; на нядзелю прыходзіў адтуль пяшком дахаты. І тыя, што там на станцыі працавалі, падкрадалі з паяздоў рознае дабро, напрыклад, брызент; з таго брызенту шылі нагавіцы ці што. І ў апошні час, дыхт перад адступленнем, зрабілі ў Лапах вобыск; і ў нашага знайшлі ў пасцелі кусок таго брызенту. За тое арыштавалі яго і вывезлі на работу ў Беласток. А там шуцманам працаваў наш далёкі сваяк, Васька, ён там іх пільнаваў. Бацька кажа яму: „Васька, як штось, то якась дапамажы". А ён кажа: „Не бядуйце, як я буду ўцякаць, то я Іванаві скажу і ўцячэм". Васька вярнуўся пасля, а нашага вывезлі ў Германію на акопы. Бацька спаткаў таго Васіля і пытае: „А дзе ж Іван?" — „А я не мог, бо так хутка". Івана пагналі на акопы, а там спаткаў калегу з Рыбал, якога забралі раней і ён працаваў у нейкай немкі. Калега спытаў сваю гаспадыню, ці можа прывесці аднавяскоўца; яна згадзілася. Яны ўдзень капалі акопы, а наначу прыходзілі дадому. Як прыйшлі рускія, асвабадзілі іх, то той Міша пайшоў іншай дарогай — можа інакш сказаў, можа сказаў, што паляк, і ўдалося яму вярнуцца. А нашага рускія забралі ў войска; каля Кёнігсберга ён быў паранены, асколкам прабіла яму руку. Яго пасля вылечылі і вывезлі ў Расію, там яго звольнілі і ён прыйшоў дадому. Прыйшоў і захварэў на заленне лёгкіх. А не было ж ніякіх лякарстваў. Хварэў бадай два гады, і памёр.

А я ўвесь час працаваў на гаспадарцы — сеялі, жалі, касілі, аралі, бульбу садзілі, і грэчку, і лубін, і сырадэлю, і віку, і авёс, і ячмень, і ўсё. І то не тое, што сёння, што трактарам; або адным канём рабілі, або была суполка з іншым гаспадаром і спрагалі коней. А калёній не было, як цяпер, а якіх пяць-шэсць кіламетраў пад Крыніцкія трэба было хадзіць і там рабіць. І я цэлы час на гаспадарцы рабіў. Былі гаварылі, каб у міліцыю, але я не хацеў, бо я люблю гаспадарку. Мяне цікавіць, як яно расце, каб дагледзець, каб добра вырасла. І сын гаспадарку любіць, і сынавая таксама...

### Вяртанне саветаў

А як адступалі немцы, то мы ўцяклі ў Целушкі. Разведчыкі ўвечары на роварах прыехалі. Танк нямецкі застраг, то пастралялі адно. А ўвечары адразу дахаты і пытаюць ці паляк. Кажам рускі, але яны ведалі, па абразах пазнавалі ці гавірыш праўду. Колькі яны тут часу былі — да Сталінграда, а пасля адступалі назад. І мы былі там да скутку, аж адступала апошняя лінія немцаў, у акопах сядзелі. А рускіх чуваць як у яноўскім спяваюць „Каробачку". Я там быў з братам Барысам, а бацька быў цэлы час дома. Тады мы рашылі вяртацца дахаты, да Рыбал — што будзе то будзе; як гінуць, то дома. Быў такі ўзгорак, Пясчынай яго называлі, там ямы на бульбу былі і мы там выкапалі акоп і там начавалі. А ў апошнюю ноч тут вялікі рух быў — тут кругом гарматы нямецкія сталі, іх уначы цягачы забіралі. Рана ўсталі — цішыня, немцаў няма. Але сем ці восем іх закладаюць міны, па ўсіх дарогах закопвалі. Закапалі, вінтоўкі на плечы і ішлі памалу далей. Прайшло некалькі гадзін, прыйшлі рускія, абарваныя, нягаленыя, брудныя, пытаюць ці немцаў няма. А страшна было і тых, і тых, бо невядома хто яны ёсць. Пабеглі цераз жыта ў бок Войшкаў, хацелі немцаў жывымі ўзяць. А ў ляску сядзеў з біноклямі нямецкі снайпер і бачыў, што рускія хочуць узяць тых ідучых немцаў. І той снайпер аднаго рускага забіў, а немцы пайшлі далей.

У Целушках, праўдападобна, прыйшлі былі такія партызаны, не партызаны, з біноклямі і гранатамі за паясамі, і прасілі ў гаспадароў есці. Накармілі іх і яны пайшлі. А там, у лесе, забілі нямецкага афіцэра, прывязалі да каня, да сядла, і пусцілі. І за тое немцы давай лапаць усіх цывіляў: некалькі чалавек з Целушок, з Канюк, чатырох з Рыбал злапалі ў лесе і прыгналі ў Рыбалы, у клуню маёй жонкі дзядоў, і там іх судзілі. І ўсіх тых, што прыгналі з лесу, відаць, засудзілі на смяротнае пакаранне. І пагналі, загналі ў клуню ў Трычоўцы і спалілі. Пасля сямейнікі перавезлі астанкі спаленых і пахавалі на могілках.



■ Каплічка ў Рыбалах

### Царкоўны хор

Як Крукоўскі быў у нас бацюшкам, тады мы пачалі спяваць. Нас было чатырох: Коля Ігнацюк, Нікалаюк Сашка і я, і Яцко Валодзя. Тут быў хор старэйшых, у якім мая мама спявала, і Сашкі Нікалаюка бацька спяваў, і Фёдар Швайко хадзіў, і мы пры іх навучыліся. Мы спявалі ўсё нотнае: „Іжэ херувімы", „Міласць міра". А Крукоўскага сын быў рэгентам і ён нас вучыў спяваць; і мы шмат часу хадзілі на кліпрас. Як насталі рускія, то людзі пераcталі хадзіць, то мая мама ў той час была псаломшчыкам. І тое ўсё прайшло. Старэйшыя адышлі і мы ўчатырох асталіся і на кліпрасе спявалі; і някепска спявалі — яшчэ некалькі жанчын было.

### Хлопцы-Рыбалоўцы

Тут была такая Ніна, яна бібліятэкаркай працавала. І як у нас арганізаваўся клуб, то сталі хадзіць чуткі, што ўсюды арганізуюць *зэсполы*, беларусы спяваюць. І прыходзіць тая Ніна, Тамашук яе прозвішча, і кажа: „Дзядзьку, ці вы не маглі б прыйсці, бо прыедзе музыкант з Бельска, Нявінскі Пётр; каб вы прыйшлі, то можа які-небудзь *зэспул* зладзім". Я так і не так. Але ж прыходзіць той Коля Ігнацюк і кажа: „Давай, спрабуем паспяваць". Я згадзіўся. Зайшоў, прыехаў Нявінскі. Але як узяць нейкія песні? То мы з тым Колем Ігнацюком хадзілі да старэйшых жанчын і пыталі іх пра даўнейшыя песні. І хто што ведаў, то нам гаварыў. А той Пеця быў такі, што як яму тлумачыш, то ён зараз ноты запісвае, а пасля па тых нотах іграе. І так мы арганізаваліся. Былі Мартынюк, я, Чалпінскі, Ігнацюк... Да іншых таксама хадзілі, запрашалі, але тыя адмаўляліся. А той Ігнацюк працаваў у Беластоку ў пажарніцтве і там пахадайнічаў, каб нам далі нейкую форму. І так ён выстараўся нам стражацкія мундзіры. Бо пра такія ўборы, як сёння, то ніхто і не думаў. Далі нам тыя формы і мы сталі спяваць. Хто якую песню ведаў, складалі, сяк і так мала-памалу зладзілі калектыў. Ужо Лукашук нас у Бельск запрашае, і мы задаволеныя, што хаця крыху ад тае работы можам адхіліцца. Першае выступленне мелі ў Бельску; не помню, якія тады мы песні спявалі. Там пазнаёміліся з калектывам з Райска, з жанчынамі. Яны нас запрашаюць у гасціну. Мы паехалі, пагасцявалі. Пасля ў Літвінавічы трэба было ехаць. Але чым? Самаходаў не мелі, аўтокара не было. Тут, у Рыбалах, быў камбінат і яны мелі аўтокар. І той Коля Ігнацюк, пакойны, ідзе да таго Лучка і просіць самахода, бо маем запрашэнне. І той згаджаўся. І як заехалі спяваць у Літвінавічы, то там пазнаёміліся з калектывам з Дашоў. І так памалу-памалу пашыраўся наш круг. Ужо выступаем у Беластоку ў філармоніі. Нас вылучала тое, што Ігнацюк пісаў свае песні. І ён усё афармляў: і самаход наймаў у Лучка, і формы выпатрабаваў. Прыехаў з Бельска Кірызюк Іван і пытае, ці мы не маглі б паехаць у Сопат, бо там з цэлай Польшчы паз'язджаюцца ўкраінскія калектывы. Быў з Бельска аўтокар і мы з Дашамі паехалі. А я ж ніколі да таго часу не бачыў мора, а там пабачыў, і на караблі плавалі і там спявалі. І тут па ўсіх вёсках ездзілі, пасля да нас яшчэ двух часам даходзіла, Бароўскі і Мартынюк. І мы ездзілі — калі ехаў Беласток у нейкую вёску, то і нас забіраў. Сямятычы, Гайнаўка, Нарва, Міхалова, Гарадок, па-за Беластокам, усюды. У напрамку Элку, па дамах апекі ездзілі і спявалі. І за граніцу паехалі, на Беларусь. Наша дэлегацыя ехала ў Мінск пра нешта дагаворвацца, то і нас, „Хлопцаў-Рыбалоўцаў" забралі з сабою. І мы паехалі ў Мінск, у Іўе. Ужо з намі Сцяпан Копа пачаў ездзіць. Бо той Пеця Нявінскі граў, як у ноты глядзеў, а калі нот не было, то не мог іграць. Помню, заехалі аднойчы да Сямятыч, там у пленэры выступалі. Быў вецярок, пачалі спяваць, ён адкрыў кніжку з нотамі, прасіў нейкіх дзяцей, каб яму тую кніжку прытрымалі. Але дзеці не схацелі. Пачалі спяваць, вецер пераварнуў карткі з нотамі, мы спяваем, а Нявінскі перастаў іграць. І пасля Ігнацюк стаў хадайнічаць, каб неяк Копу намовіць да нас. І Копа згадзіўся, і прыязджаў да нас. У Беларусь, у Гродна ездзілі, і па вёсках, скрозь выступалі; крыху свету пабачылі. І так з рознымі калектывамі мы абменьваліся запрашэннямі. І так мы праславіліся. А што было асаблівым нашым козырам? Ігнацюк складаў такія песні, якіх нідзе не было. Напрыклад, калі пісаў песню пра Райск, то ён туды ездзіў і распытваў як было, таксама і пра бой над Нарваю. Уладзімір Цалпінскі, Дзям'ян Лукашук, Мікалай Ігнацюк, я; і Барыс Швайко далучаўся да нас. А мне ўжо гады назбіраліся, і здароўе стала падводзіць. Так склалася, што спявалі ў нас толькі мужчыны; было некалькі жанчын ахвотных, але то муж не дазваляў, то бацькі не давалі згоды.

Запісаў **Аляксандр ВЯРБІЦКІ**



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

■ Школьны будынак у Рыбалах

# Тыдзень перад Раждджаством


Эля Чарэмха перад спектаклем


Крынскія каляднікі

— На другі год буду Чортам. Прынамсі пагарэзнічаю. Анёлкі рашуча не для мяне, яны надта нудныя, — кажа сямігадовая Таня, якая іграе ролю Анёлка.

Зузя, вучаніца чацвёртага класа, яшчэ ніколі не выступала ў яслях. Прыйшла на спектакль падтрымаць сваю маму Натальку Гадлеўскую, якая ўвасобілася ў чорта Баруту. Мама аказваецца таленавітай акцёркай, якая, нягледзячы на трое малых дзяцей у хаце, працу ў краме і вядзенне дзіцячага спартыўнага клуба ў мясцовай школе, знайшла час і на тэатр. Зузя паспела ўжо вывучыць маміну ролю. На другі год таксама хоча паспрабаваць сваіх сіл менавіта ў ролі Чорта. Мама, натуральная бландзінка, на сцэне паявілася ў чорным парыку. Зузя пайшла па бабулі — яна чарнавокая, чорнавалосая, як сапраўдны чорт. Але хто тады захоча іграць анёлаў?

Пакуль што да чарговых ясляў застаецца яшчэ круглы год. А ў Крынках вялікая прэм'ера сёлетняга, першага з трох запланаваных тут, спектакля. Будуць і гастролі. Рыхтаваліся ўсяго тры месяцы: вучні пачатковай школы, гімназісты, ліцэісты і зусім дарослыя. Збіраліся па некалькі разоў у тыдзень. Кожная рэпетыцыя не карацейшая чым тры гадзіны, а бывалі і нашмат даўжэйшыя. Ніхто не наракаў. Малым надта цікава, а перш за ўсё вялікі гонар працаваць з нашмат старэйшымі калегамі. А і старэйшыя зусім не саромеліся малодшых. Гэтую вялікую каманду сабрала і вяла Эля Чарэмха — дырэктарка Крынскага дома культуры.

— Ім проста хочацца пабыць разам, — тлумачыць яна. — Няшмат тут такіх ініцыятыў.

Цэлы спектакль распісаны на дзве гадзіны з лішнім. Нехта з гледачоў сказаў, што надта доўгі. У акцёраў зусім іншае меркаванне на гэты конт. Ім увогуле не хацелася сыходзіць са сцэны. Музычная камедыя ў пяці актах. Спявалі гіты ўсіх часоў і добра смяяліся. Люцыфер — Люцы Юркевіч — адна з працаўніц мясцовага дома культуры, адзелася ў чырвоную куртку і штаны з васьмідзясятых гадоў. Ролю Кітайца на канікулах у Віфлееме, захопленага музыкай «Джастына Бімбра» па-майстэрску адыграла артыстка кабарэ, а штодзень медсястра Гражына Бараноўская. Спадарыня Гражына захоплена працавітасцю маладых акцёраў, сярод якіх апынулася і яе дачка Каміля.

— На апошніх рэпетыцыях нехта забываўся яшчэ свайго тэксту, — кажа спадарыня Гражына, — але ўмеюць мабілізавацца і прэм'еры праходзяць ужо без памылак. Ветэраны роляў не забываюцца. Адзіная праблема ў працоўнай мабільнасці. Наталія Гадлеўская ўжо ведае, што на чарговы спектакль шэф яе не адпусціць. У сувязі з гэтым ролю Чорта прыйдзецца чытаць мне.

Яслі былі другім пунктам гмінных святкаванняў Божага Нараджэння ў Крынках. Папярэдзілі іх калісь тут традыцыйныя Гэроды. Вялікі карагод анёлаў, чартоў і пастушкоў перайшоў з Каўказскай сінагогі на галоўны пляц мястэчка. Ішлі з калядой, Смерцю, Жыдам, яго гітарай і Казой. А на самым перадзе вялікая, рухомая зорка. У спектакль Гэродаў былі ўключаны так каталіцкія, як і праваслаўныя калядкі, спяваныя пад жыдоўскую гітару і сапраўдная жывіна, між іншым, спадарства Дарожкаў. А святы Мікалай выцягваў цукеркі з вялікага мяшка. Цукерак было больш, чым сабраных на рынку людзей, таму раздаваў па некалькі штук, прытым задарма. Хто хацеў, мог даць сімвалічны грош на святочныя цацкі, зробленыя Эляй Чарэмхай і дзяцьмі на занятках у доме культуры. Гітам цацачнага прылаўка стала пернікавая хатка з пернікавым плотам аўтарства крынчанкі спадарыні Яцкевіч.

Пасля ўсіх выступленняў адбылася вячэра для адзінокіх. Сярод іх было двух каталіцкіх ксяндзоў і адзін праваслаўны. Да супольнага стала селі таксама працаўнікі Гміннай управы і стомленыя доўгім, напружаным днём акцёры.

Тэкст і фота **Іаанны ЧАБАН**




Найлепшае вывучэнне гісторыі такое, дзе навучэнец мае як мага больш нагляднага матэрыялу. Цяперашнія інфармацыйныя тэхналогіі пры выкарыстанні фармату 3d здольныя стварыць уражанне знаходжання каля таго ці іншага аб'екта. Сёння гэтыя тэхналогіі лічацца перадавымі. Іх усё часцей выкарыстоўваюць розныя музеі для азнаямлення цікаўных карыстальнікаў інтэрнэту са сваёй экспазіцыяй шляхам камп'ютарнай 3d-экскурсіі. Праўда, пакуль такія магчымасці выкарыстоўваюць далёка не ўсе, каму залежыць на прадстаўленні помнікаў даўніны. Таму на некаторых сайтах, дзе мы можам пабачыць цікавыя выяўленні ў найбольш сучасным фармаце, варта засяродзіць больш увагі.

Адным з такіх сайтаў з'яўляецца сайт „Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае", які месціцца па адрасе **http://vkl3d.com**. Выява яго галоўнай старонкі карэнным чынам адрозніваецца ад звыклых інтэрнэт-бачын. Выйсці на іншыя рубрыкі, якіх усяго толькі пяць, знаходзяцца паабапал цэнтральнага выяўлення — карты ВКЛ з ачэрчаным на ёй контурам тэрыторыі сучаснай Беларусі. Уверсе, акрамя назвы сайта, месціцца дэвіз „Веліч і моц", які, трэба разумець, датычыць акурат Вялікага Княства — калыскі беларускай нацыі. Невялікі расповед пра яго месціцца ніжэй карты, і там ВКЛ прадстаўляецца як найвялікшая дзяржава на еўрапейскім кантыненце, што існавала шмат стагоддзяў таму.

„Шмат народаў жыло ў яе межах, у тым ліку і самыя шматлікія яе жыхары — літвіны, русіны ды жамойты, якія й далі назву краіне. Шмат рэлігіяў ужывалася адно з адным. Гарады мелі сваё права — Магдэбургскае, людзі — сваё, Статут — хіба ня першую Канстытуцыю ў Сьвеце. Розныя людзі і па культуры, і па заможнасьці, і па мірапогляду жылі побач. Разам жылі, разам будавалі краіну, разам абаранялі яе. (Менавіта абаранялі, таму што, нават улічваючы жорсткія норавы Сярэднявечча, з большага не захаплялі мечамі і крывёю суседзяў, а аб'ядноўваліся, каб даваць адпор захопнікам.) Пра што сьведчыць нават старажытны герб Пагоня, яго выгляд і назва — вершнік на кані з узьнятым мечам, які вядзе „пагоню" — традыцыйны пераслед ворага, пакуль ён не пакіне родную зямлю", — узнёсла распавядае стваральнік сайта.

Як сведчанні былой велічы і моцы ВКЛ на сайце прадстаўлены два замкі — Крэўскі і Гальшанскі. Так, Крэўскі замак можна ўбачыць такім, які ёсць цяпер і такім, які быў тады, калі старабеларуская краіна перажывала свой росквіт.

3d-тэхналогія дазваляе цікаўнаму карыстальніку праглядзець прадстаўлены замкі з розных бакоў, рухаючы выяўленне кліканнем камп'ютарнай мышкай. Крэўскі замак мы можам пабачыць зверху, а таксама вачыма чалавека, што стаіць на масце перад замкавай брамай. Падрубрыкі „Крэўскага замка" змяшчаюць выгляд краявідаў каля абаронных сцен, унутрызамкавага двара, некалькі нерухомых малюнкаў, а таксама падрабязны расповед аб замкавай гісторыі.

Што тычыцца Гальшанскага замка, то там усё значна сціплей. Некалькі фотаздымкаў і пазначэнне ў дужках — ідзе будоўля. Праўда, судзячы па водгуках, што месціцца ў рубрыцы „Гасцёўня" такая будоўля Гальшанскага замка працягваецца каля года. Дарэчы, менавіта ў гэтай рубрыцы мы можам даведацца імя і прозвішча стваральніка сайта — Ахрэма Белабровіка, які крыху раскрывае сакрэты свайго майстэрства.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара

## Мастак, які адлюстраваў гісторыю ліцвінаў



# 100 гадоў з дня смерці Казіміра Альхімовіча

Мастак, прадстаўнік позняга рамантызму і рэалізму, удзельнік паўстання 1863-1864 гадоў Казімір Альхімовіч нарадзіўся 20 снежня 1840 г. у мясцовасці Дэмбрава (Шчучынскі раён). Паходзіў з небагатага шляхецкага роду Дамініка Альхімовіча. Скончыў Віленскую гімназію, дзе атрымаў пачатковую мастацкую адукацыю. На фармаванне творчай індывідуальнасці будучага мастака значны ўплыў зрабіў Канут Русецкі, творчая дзейнасць якога была ў цэнтры мастацкай грамадскасці Вільні. Пасля гімназіі некаторы час працаваў аканомам у адным з маёнткаў пад Кіевам.

У 1863 г. разам з малодшым братам Гіяцынтам удзельнічаў у вызвольным паўстанні. Быў арыштаваны і высланы ў Сібір — за Урал у Верхатур'е. Асаблівага кампрамату на яго не знайшлі, таму пераслед быў дастаткова мяккім паводле маштабаў рэпрэсій. У 1869 г. вызвалены са ссылкі па амністыі. У 1871-1873 гг. жыў у Варшаве, вучыўся ў мастацкай школе, якой кіраваў выхаванец Пецярбургскай акадэміі мастацтваў Войцех Герсан. Удзельнічаў у варшаўскіх мастацкіх выставах. Неаднаразова наведваў родныя мясціны на Шчучыншчыне.

Першыя мастацкія працы мастака былі створаны пад уплывам сібірскай ссылкі: „Смерць у выгнанні", „Пахаванне на Урале" (каля 1873). Пасля Варшавы працягваў вучобу ў Мюнхенскай акадэміі мастацтваў, якую скончыў у 1875 г. Займаўся там пад кіраўніцтвам прафесара Аляксандра Вагнера. За свае працы атрымаў некалькі срэбраных і залатых медалёў. У 1876-1878 гг. вучыўся ў Парыжы. Некаторы час жыў у французскіх гарадах Авон і Фантанбло. З 1878 г. (паводле іншых звестак з 1880 г.) жыў у Варшаве, паспяхова ўдзельнічаў у выставах Варшаўскага таварыства заахвочвання мастацтваў і Салона ў Парыжы.

Сюжэты для сваіх палотнаў „Хрысціянскія пакутнікі", „Пасля бітвы", „Пахаванне Гедыміна" і іншых браў з гістарычнага мінулага. Карціна „Пахаванне Гедыміна" атрымала сусветную вядомасць, яна экспанавалася на выставах у Варшаве, Пецярбургу, Львове, Сан-Францыска. Карціны „Паганскія жрацы", „Малітвы пакутнікаў", „Багіня кахання Мільда", „Смерць Маргера", „Ліздзейка з дачкой на руінах царквы Перуна", „Апошні жрэц Літвы з дачкой Плёнтай" сведчаць пра выдатнае веданне мастаком гістарычнага мінулага.

У 1880-я гады Альхімовіч стварыў гістарычныя палотны „Смерць Глінскага ў турме", „Падрыхтоўка да смерці Самуіла Збароўскага". У многіх карцінах творца ствараў вобразы манархаў і вайсковых начальнікаў: „Абарона Ольштына", „Вясельныя ўрачыстасці Жыгімонта Аўгуста" і іншыя.

Мастак плённа працаваў і ў бытавым жанры. Паводле замалёвак і эскізаў, зробленых у родным Дэмбраве, напісаны творы „Жніво", „Дажынкі", „Хата селяніна", „Дзеці пад лесам", „Найманне работнікаў". Альхімовіч вядомы таксама як графік, у тэхніцы літаграфіі выканаў шматлікія ілюстрацыі да твораў Адама Міцкевіча („Пан Тадэвуш"), Юліяна Славацкага, Юзафа Крашэўскага, іншых пісьменнікаў.

У гісторыю выяўленчага мастацтва Казімір Альхімовіч увайшоў як майстар глыбока эмацыйнай псіхалагічнай кампазіцыі. Пра асабістае жыццё мастака вядома вельмі мала. Дажыў ён да глыбокай старасці. Памёр у апошні дзень 1916 г., пахаваны ў Варшаве на могілках Павонзкі. У пачатку 90-х ХХ ст. у Дэмбраве прайшла канферэнцыя, прысвечаная Казіміру Альхімовічу. Планавалася ўсталяванне мемарыяльнай дошкі на будынку мясцовай школы, якое не было здзейснена.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Нараканнем рэчаіснасці не зменім

Хто як хто, але паэты то перш за ўсё гуманісты. Па-мойму ў паэтаў на першым месцы з'яўляецца чалавек, яго прыроднасць і ўсё, што з ім звязана: розум і безразумнасць, эмоцыі і безэмацыянальнасць, свядомасць, каханне, эмпатыя і нянавісць і г.д. Потым паэта ўражвае прырода і акружаючая чалавека рэчаіснасць.

„Верш ёсць цудам" — лічыць Яраслаў Мікалаеўскі, і я з ім згодны. А ці публіцыстыка, запісаная ў вершаванай форме з'яўляецца цудам ? — глядзі „Юбілеі" Юркі Буйнюка ў „Ніве" ад 13 лістапада г.г.

Каб верш быў цудам, то перш за ўсё мусіць быць вершам, а не балбатнёй. Праўда, у гісторыі літаратуры быў перыяд, бадай што ў дваццатых гадах XX стагоддзя, які называўся „дадаізм". Паэты збунтаваліся і сказалі, што форма верша — неабмежаваная, што вершам можа быць нават:

*Дада дада дада...*

І я гэта разумею, але каб пісаць, мала пісаць, проста наракаць, што:

*У кульце дзёрзкіх старцаў*
*У смярдзючых нафталінам пінжаках*
*Этнафілолагаў*
*Рацыянераў*
*Белсатаманьякаў*
*Радзімай псеўдакультуры*
*Няма месца для маладых* — то я не разумею.

Што Ю. Буйнюк, як малады „паэт", хоча заняць месца „Дзевяностагадовых" ці „Пяцідзесяцігадовых" юбіляраў, але ў чым? У літаратуры? Ці на нейкай пасадзе? Ну, проста не ведаю. Перш за ўсё трэба пісаць **вершы (!)**, каб быць хоць літаратарам.

А што „старцы", а пры тым „дзёрзкія", то проста радасць і ні пры чым тут „смярдзючыя нафталінам пінжакі".

Тое, што старыкі займаюць прастору маладым, то так ужо ёсць на гэтым свеце. І так ужо ёсць, што калі малады збунтуецца, то старык воляй няволяй уступіць месца маладому. А ці Ю. Буйнюк сарганізаваў нейкую дэманстрацыю процiў старыкам? Ані „Ніва", ані „Часопіс", тым болей тэлебачанне пра гэта не гавораць. Нараканнем рэчаіснасці не зменім.

А так пры нагодзе юбілею, то „Ніве" таксама мінула шэсцьдзясят гадоў, і няхай будуць наступныя юбілеі.

Рэдакцыі з гэтай нагоды шлю сардэчныя віншаванні. Жадаю Вам добрага здароўя, цікавых тэкстаў, многа чытачоў.

❖Міхась КУПТЭЛЬ

# Колькі разоў можна маніць?

Ужо мінулі тры гады як я дамагаюся ў Праўленні павятовых дарог (ППД) у Гайнаўцы, каб паабапал павятовай дарогі, якая бяжыць цераз вёску Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны ссеклі сухія дрэвы. Выкарыстаў у гэтай справе амаль усе магчымыя сродкі, між іншым гаварыў падчас сесій Гміннай рады (я радны і солтыс Новага Ляўкова), на якія двойчы прыязджала кіраўнічка ППД і давала абяцанні, войт Нараўчанскай гміны высылаў пісьмы, я тэлефанаваў у ППД, два разы быў у гэтай справе ў старасты Гайнаўскага павета, якому падпарадкавана ППД. Стараста пры мне тэлефанаваў да кіраўнічкі Крыстыны Мішчук у маёй справе. Але, як відаць, рука руку мые.

І, як дагэтуль, нічога не атрымліваецца, ні адзін крок наперад. Пару разоў я пісаў у „Ніву". У апошнім дапісе пад загалоўкам „Сухія дрэвы" („Ніва" № 14 ад 3 красавіка 2016 года) я пісаў: „(...) Кіраўнічка ППД дагэтуль толькі піша ды піша, а як жа, адказы то праз месяц, то праз два, з якіх нічога не атрымліваецца, няма ніякага зруху. Зацікаўлены водзіць — як кажуць — за нос. Вось часы насталі".

А зараз працytую апошні пісьмовы адказ загадчыцы ППД у Гайнаўцы з датай 28 кастрычніка 2016 года: „W odpowiedzi na pismo (...) Zarząd Dróg Powiatowych w Hajnówce uprzejmie informuje, że ww. drzewa zostały sprzedane w aukcji przeprowadzonej w dniu 27. 09. 2016 r. z wyznaczonym terminem zakończenia prac do dnia 21.12.2016 r.".

Такі адказ кіраўнічка ППД выслала войту Нараўчанскай гміны, Павятоваму старосту ў Гайнаўцы і мне. І думаеце, што справе канец? Нічога падобнага. Тэрмін высечкі мінуў. Пішу я гэты допіс 23 снежня 2016 года. Значыць і ў гэты раз атрымаўся зманлівы адказ. Сухія дрэвы пры вуліцы ў Новым Ляўкове як стаялі, так і стаяць. Як вядома, дрэвы паміраюць стоячы. У Новым Ляўкове шматлікія дрэвы засохлі, але павятовы гаспадар дарог інжынер Крыстына Мішчук, на ўсім відаць, зрабіць з імі парадак не ў змозе. 28 снежня 2016 года будзе сесія Гміннай рады ў Нараўцы і я зноў скажу пра сухія дрэвы ў маёй роднай вёсцы і войт пашле чарговае пісьмо ў гайнаўскае ППД. Будзе гэта ўжо чацвёрты год майго як раднага чакання завяршэння здавалася б вельмі простай справы. Не скрываю, што мне па гэтай прычыне прыкра і адчуваю горыч на душы. У Новым 2017 годзе кіраўнічцы ППД жадаю большай аператыўнасці і лепшых поспехаў на працы.

❖Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

*Словы Міры Лукшы*

# *Глыбокая студня*



*У глыбокай студні халодна вадзіца.*
*У вачах любімых можна утапіцца.*
*Зачарпну вадзіцы і нап'юся ўволю.*
*У вачах каханых аднайду патолю.*

*Дай мне сваю руку, дай мне свае вочы.*
*Кахаць цябе буду у дзянькі і ночы!*
*Кахаць цябе буду, ніяк не стамлюся.*
*Разам з галавою ў шчасце акунуся!*

*Пад зямлёй крыніца студню напаўняе.*
*Моцна, шчырым сэрцам мы сябе кахаем.*
*І так год за годам у студні не ўбывае,*
*Бо любоў-вадзіца з нетраў выплывае.*

*Палічым дзясяткі шчаслівых гадочкаў.*
*Юбілеі справяць нам сыны і дочкі.*
*І падкажам ўнукам, каб студні глыбокай*
*Пільнавалі чыстай, як зрэнкі ў воку.*

***Прыпеў:***

*Глыбокая студня*
*– чыстае каханне.*
*Хто кахае моцна, разам*
*побач стане.*
*Глыбокая студня*
*бліскае вадою.*
*Бліщчаць вочы шчасцем*
*у мяне з табою.*

***Спявае гурт „Вясна" з Беластока***

# 01.01 — 07.01

**(22.03. — 20.04.)** Выдатны час для вучобы і падарожжаў. У інтэрнэце зможаш займець шмат сяброўскіх кантактаў — хтосьці з новых знаёмых стане мудрым таварышам і духоўным настаўнікам. Можаш адкрыць для сябе новы напрамак для пазнання. Лёгка ўрэгулюеш усе пытанні наконт шлюбных узаемаадносін. Удалы час для юрыдычнага афармлення дамоўных адносін. На выходныя дні запланаваў паход па крамах.

**(21.04. — 21.05.)** Больш уважліва стаўся да пытанняў прафілактыкі здароўя і гігіены. Калі ў цябе хранічныя захворванні, пачаты на гэтым тыдні курс лячэння дапаможа значна палепшыць самаадчуванне. Выдатны час для пазбаўлення ад старых і непатрэбных рэчаў. Перабяры і пасартуй свае шафы і паліцы. Гэта палепшыць самаадчуванне і дадасць сіл і аптымізму.

**(22.05. — 22.06.)** Блізнятам, якія складаюцца ў шлюбных адносінах, зоркі раяць перадаць ініцыятыву каханаму чалавеку. Будзе тады цалкам камфортна. Лепш не ўступай у спрэчкі і высвятленні адносін. Усе бягучыя праблемы вырашай рацыянальна, шляхам спакойнага абмеркавання. На выхадных узмоцніцца твая сексуальная актыўнасць і гатоўнасць ісці на рызыкоўныя авантуры.

**(23.06. — 23.07.)** Шмат клопатаў па хаце і працы. Але ты з захапленнем станеш займацца наведзеннем парадку вакол; ад гэтага будзе залежаць твой фізічны і псіхалагічны стан. Выдатны час для праходжання медыцынскага абследавання на прадмет выяўлення захворванняў і іх своечасовага лячэння. У выхадныя дні адпраўся на сямейныя ўрачыстасці, юбілеі. Самотны Рак можа пазнаёміцца са сваёй будучай другой палавінкай.

**(24.07. — 23.08.)** Ільвы на гэтым тыдні змогуць найбольш поўна рэалізаваць сябе ў творчасці. Дастаткова вольнага часу, каб прысвяціць сябе любімым заняткам. Выдатны час для рамантычных знаёмстваў і любоўных прыгод. У сямейных Ільвоў зносіны з дзецьмі стануць велізарнай радасцю. У суботу або нядзелю можаш набыць хатнюю жывёлу.

**(24.08. — 23.09.)** Час варта правесці ў хатнім сямейным коле сярод блізкіх і родных людзей. Зносіны на рэдкасць гарманічныя і карысныя. Паразмаўляйце са старэйшымі роднымі. Добры час для добраўпарадкавання дому. Купляй бытавую тэхніку, асвятляльныя прыборы. Вельмі прыемны клопат аб дзецях.

**(24.09. — 23.10.)** Час правядзі ў вясёлых паездках і забавах. Адцягні сябе ад праблем. Кантактуй з цікавымі людзьмі. Захочацца табе быць у курсе падзей, якія адбываюцца ў асяроддзі. Вельмі верагодна, што цябе запросяць у кароткую паездку. Суботу найлепш правесці дома, у сям'і.

**(24.10. — 22.11.)** Тыповым Скарпіёнам захочацца выкарыстаць гэты час для ўрэгулявання якіх-небудзь практычных пытанняў. Зможаш знайсці або зарабіць дадаткова нейкую суму грошай, дзякуючы якой стане магчымым вырашэнне шэрагу праблем. Добры час для тых, хто нават пад свята працуе, займаецца бізнесам. Выдатны перыяд для пакупак для дому. Набывай камп'ютар ці ноўтбук у чацвер, пятніцу або суботу.

**(23.11. — 22.12.)** Выкарыстай час для ўласнага развіцця. Паспрабуй разабрацца ў сабе і вырашыць, што патрабуецца табе для дасягнення поспеху ў жыцці. Зараз унікальны момант, калі зможаш лепш зразумець сябе і свае магчымасці і адразу ж запланаваць тыя мэты, якіх трэба дамагчыся ў першую чаргу. Здабудзеш большую ступень самастойнасці, свабоды дзеянняў і выбару. Варта сустрэцца з сябрамі, даведаешся пра штосьці вельмі важнае і карыснае.

**(23.12. — 20.01.)** Тыдзень асаблівы. Адкрыюцца нейкія сакрэты. Калі цябе хвалююць нейкія дзіўныя і цяжкавытлумачальныя падзеі, разбярэшся ў сутнасці таго, што адбываецца, прыадчыніш заслону таямніцы. Спрыяльны перыяд для заняткаў духоўнымі практыкамі, вывучэння літаратуры па псіхалогіі, роздумаў.

**(21.01. — 19.02.)** Не абыдзешся без сяброў і паплечнікаў. Тым, хто не абцяжараны сямейнымі клопатамі, зоркі раяць увесь вольны час прысвяціць зносінам з сябрамі ў клубах, на танцавальных пляцоўках, у кафэ і рэстаранах. Калі ты не вельмі гаманкі, паспрабуй кампенсаваць недахоп зносін у інтэрнэце. Знаёмства з віртуальным суразмоўцам можа перарасці ў моцнае сяброўства. У тваё жыццё можа ўварвацца чалавек, з якім ты падтрымліваў любоўныя і інтымныя зносіны; ваша гісторыя яшчэ не скончана і ў яе можа быць працяг.

**(20.02. — 21.03.)** Здолееш дамагчыся шмат чаго з таго, да чаго імкнуўся ўвесь час. Можаш разлічваць на дапамогу ўплывовых людзей. Будзеш паводзіць сябе больш актыўна і мэтанакіравана. У другой палове тыдня ўдача будзе спадарожнічаць літаральна ва ўсім, лёгка будуць рэалізоўвацца даўнія мары. Выпадковыя трапныя сустрэчы. Купі латарэйны білет, які будзе разыгрывацца ў суботу або нядзелю: фартуна і тут можа табе ўсміхнуцца!

Агата АРЛЯНСКАЯ

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | | | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |

1. вугал, які ўтвараецца зададзеным напрамкам руху і напрамкам на поўнач = 20 _ 19 _ 14 _ 9 _ 3 _ 2 _;
2. светлая частка сутак = 4 _ 5 _ 6 _ 7 _ 8 _;
3. астатак спілаванага дрэва, які астаўся ў зямлі = 15 _ 16 _ 17 _ 18 _;
4. гразе-каменны горны паток, які ўтвараецца ў выніку лівняў або таяння снегу = 1 _ 23 _ 21 _ 22 _;
5. рыба сямейства карпавых (*Leuciscus leuciscus*), якая водзіцца ў... буйным горадзе на захадзе Ліпецкай губерні Расіі = 10 _ 13 _ 12 _ 11 _. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 50 нумара**

Брыгада, настойка, Лондан, дыдактыка, Рубенс, цана, Прага, цырк, вакуум.

Рашэнне: **Галоднай курцы проса на думцы**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (67)


Міхайла і Галя Мартынюкі з сынамі Сашкам і Валодзем

Багацце? Што гэта такое? — Галя і Міхайла Мартынюкі, маюць гатовы адказ: — Багацце, — кажуць — гэта тады, калі поўная хата ўнукаў, гасцей, сваякоў. Калі служыць здароўе і ёсць ахвота працаваць. Калі не трэба дрыжаць за жыццё родных, што на вайне...

Праўда, у апошнія гады, палеская глыбінка ўзбагацілася, дзякуючы нелегальнай здабычы бурштыну. У Вэтлах бурштын ведалі ад заўсёды. Сонечны камень тут не навіна і не сенсацыя. Яшчэ адносна нядаўна людзі карысталіся ім як лучынай ды падпальвалі дровы ў печцы. І сёння, калі па суседніх раёнах успыхнула бурштынавая гарачка і з дня на дзень нараджаліся новыя доларавыя мільянеры, у Вэтлах гаварылі пра гэта з крайняй неахвотай. Пры такіх каштоўнасцях як пачуццё бяспечнасці нечаканыя мільёны явіліся чартоўскай інтрыгай. Тут далей верылі ў сумленную працу, сямейную падтрымку і Бога.

Міхайла, ганарыцца што навучыў сыноў звычайнай жыццёвай карпатлівасці.

— Хлопцы ўмеюць зрабіць кожную вясковую работу, — адзначае бацька, — умеюць араць канём, касіць уручную траву і збожжа, умеюць пакарміць жывёлу, загатовіць і парубаць дровы...

У час, калі я наведала Мартынюкоў, трох кавалераў выседжвала ля камп'ютара. Наймалодшы Валодзік, яшчэ дашкольнік, прысеў на канапе з кніжкай у руках. Яшчэ іншы хлопец дапамагаў маці на кухні, якая рыхтавала пачастунак. У людной сямейцы не адчувалася натоўпу. Кожны ведаў сваё месца. Ніхто таксама не асмеліўся ўвайсці ў слова бацьку, які цёпла і з пачуццём гумару цягам трох гадзін сам адзін распавядаў пра сямейку. Тэмперамент мужчынскага полу быў пад поўным кантролем. Тым больш уразіла звестка пра сямейную страсць. Мартынюкі нават прыдбалі сваю прыватную спартовую пляцоўку, каб у вольны час пагуляць у мяч.

— У нас заўзятыя фанаты футбола, — кажа з гонарам Міхайла.

* * *

Чым больш пазнавала я страсці і здольнасці мужчынскага полу, тым больш захаплялася спадарыняй Галяй. Жанчына ні адным словам не намякнула на стомленасць. Наадварот, яна струменіла жыццярадаснай энергіяй, мацярынскай радасцю. Яе ветлівасць, сардэчнасць і гасціннасць былі настолькі шчырымі, што ажно прыводзілі ў заклапочанасць. Галя нарадзіла адзінаццаць хлапцоў на працягу 24 гадоў, роды адбываліся праз год, паўтара года, часам два гады... Найбольшы перапынак, бо ажно чатыры гады, было паміж Барысам і Сашкам...

— А што вы рабілі, калі яны пачыналі плакаць уначы?

— Ну што рабіла? — здзіўляецца Галя.

— Я ж мама. Я ведала, што трэба рабіць. Ну, аднаму дала піць, другому есці, а трэцяга прытуліла і спаць паклала.

Калі падраслі старэйшыя хлопцы, усё стала прасцей. Яны пераймалі яе задачы, няньчылі малодшых, peравівалі, мылі пялёнкі, насілі на руках...

— Спачатку я сама спявала калыханкі і апавядала казкі, ажно яны паснуць. А зараз зайду да іх у пакой, а там ціш, як мак пасеялі. Прыстану і слухаю, як старэйшыя хлопцы расказваюць мае казкі малодшым....

Штодзённы будзень Галі пачынаецца ў сем раніцы. Яна рыхтуе для ўсіх снядaнак, выпраўляе Андрэя, Міколу, Барыса і Сашку ў школу, старэйшыя хлопцы і бацька ідуць да нейкай хатняй або палявой работы, а яна рыхтуе абед, а пасля вячэру. Адначасова прыбірае ў хаце, мые вопратку і пасцель, бяжыць прапалоць агарод, даглядае курэй і гусей, нясе ваду для каня, аглядае тэлесерыял, бяжыць паглядзець самотную суседку бабу Машу. На руках наймалодшы Валодзік, які безупынна ўсміхаецца і хоча ва ўсім дапамагаць.

— Нашы хлопцы ўмеюць жаночыя работы, — кажа Галя. — Вось, наш Юра — незвычайны кухар. Ён вычытае пра ўсе новыя стравы, пячэ тарты, усякія пірагі. Іншыя прыбіраюць у хаце, змываюць пасуду. Нават у лес па грыбы і чарніцы ўсе разам ходзім....

— Збіраеце на продаж?

— У асноўным для сябе, на варэнне і кампоты. У нас такая сямейка, што не любіць есці грыбоў, дык мы збіраем, каб было што даць для гарадскіх родзічаў.

— А якія ў вас улюбёныя стравы?

— Бульба і ўсё з бульбы, — смяецца Галя, — асабліва дранікі са смятанай.

* * *

За час, калі мы размаўлялі з Міхайлам, Галя падрыхтавала пачастунак. На стале з'явіліся бульбяныя дранікі, салат з жоўтых і ружовых памідораў з цыбулькай і рапсавым алеем, украінскі боршч, смажаныя катлеты, бульба са шкваркамі, белы хлеб, смятана, кампот з чарніц. Упершыню я паспрабавала ўкраінскі боршч, згатаваны на палескі капыл, то-бок, замест мяса тут дабавілі рыбу, спецыяльна сушаную ў печцы. Яна не пакідае характэрнага паху, а толькі папаўняе страву далікатнымі шматкамі мяса і лёгкім тлушчам, які смачна спалучаецца з густой, прыквашанай смятанкай і чорным перчыкам.

Вядома, за сталом Мартынюкоў не магло абысціся без прыгожых слоў прыпрошвання і тостаў. Міхайла пачаставаў мяне вясельнай самагонкай, якую паліваў з імбрыка. Гонарам палескага гаспадара з'яўляецца не толькі трымаць аўтарытэт і парадак у сям'і. Кожны мужык абавязаны прыдбаць на патрэбы гасцей і сваякоў самагонку. Найлепш уласнай вытворчасці. Хоць гэты занятак дзяржавай забаронены, але ён абняты сакрэтам палішынеля.

— Кожны гэта разумее, — адзначае Міхайла.

Добрасуседская салідарнасць і разуменне гэта яшчэ адзін спосаб на лепшую якасць жыцця. Міхайла — чалавек аддaны грамадзе. Ён — царкоўны стараста.

— Я ад пачатку пры царкве, — кажа.

У Вэтлах трыццаць гадоў не было царквы. Каб асвяціць «паску», людзі прадзіраліся праз балоты дваццаць кіламетраў, у Вялікую Глушу. Або ехалі у суседні раён, ажно ў Маневічы. Дарога займала цэлы дзень. Таму разам з незалежнасцю адразу сталі будаваць царкву. Спачатку яна прыналежала Кіеўскаму патрыярхату. У канцы грамада вырашыла перайсці да Маскоўскага патрыярхату.

— Мы не разлічвалі на грашовую дапамогу, усё рабілі сваімі рукамі, калядавалі на патрэбы царквы, — адзначае Мартынюк. Адной з найбольш набрынялых праблем царквы на Палессі з'яўляецца недахоп заангажаваных святароў. Быццам тут знаходзіліся штрафныя парафіі. Большасць бацюшкаў накіраванне ў такія парафіі як Невір ці Вэтлы ўспрымае як ссылку. Пры любой нагодзе яны з'язджаюць у глыб Украіны.

— Доўгі час нам не шанцавала з бацюшкамі, — кажа Міхайла, — таму, калі ўрэшце прыслалі добрага свяшчэнніка з Маскоўскага патрыярхату, людзі прымірыліся са зменай. Усё адбылося ў міры. Тыя, што хадзілі раней, ходзяць па сённяшні дзень на багаслужбы.

Праўда, часам баліць, калі папракаюць у недахопе патрыятызму:

— Мы рашылі не бегчы перад пачатак поезда, не апярэджваць таго, што наканавана, — кажа.

* * *

Пытаю ў Галі і Міхайла ці мараць пра пенсію і адпачынак.

— Як жа нам адпачываць, — здзіўляецца Галя. — У нас такая хата, што заўсёды было многа людзей. Цяпер дзеці, пасля будуць унукі, дасць Бог дачакаем яшчэ праўнукаў. Дык няма ж часу адпачываць. Увесь час трэба думаць, каб быў парадак, дастатак і згода ў хаце. Каб родзічы не абміналі двара...

Калі жаніліся не планавалі такой вялікай сям'і. Сёння надзвычай удзячны Богу за згодную сям'ю, за кожны пражыты дзень. Што найважнейшае для іх у жыцці?

— Здароў'е і мір, — кажуць згодна.

— Усё іншае можна прыдбаць.

Галя і Міхайла Мартынюкі дзеляць страх і гора з цэлай краінай. Двух старэйшых сыноў служыць па кантракце ў арміі. Спачатку апынуліся пад Данецкам, яшчэ ў сакавіку 2014 года, перад пачаткам вайны. Паехалі на фронт тайком, не сказалі бацькам. Тады кожную ноч дрыжалі за іх жыццё, баяліся, што прынясе наступны дзень.

Зараз іх найбольшая мара — каб скончылася вайна. Усё іншае менш істотнае. Сямейка не спадзяецца на дапамогу дзяржаўных інстытуцый, на грашовыя кампенсацыі і прэміі.

— У нас вялікая сям'я і, — кажа Міхайла, — яны нас не пакінуць у бядзе.

(працяг будзе)


Свята-Міхайлаўская царква ў Вэтлах

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 01